АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ

# УЗБРОЕНЫЯ ПЕСНІ

Пятро Глебка
на ўспамін аб
сумеснай рабоце над
пісьмом Сталіну ад беларускага
народу
Андр. Александровіч
10. XII. 36
Менск

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК • СЕКТАР МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ • 1936

ДЗЕНЬ ДОБРЫ, РАДЗІМА! ТАБЕ
Я ПРОСТУЮ ПЕСНЮ СВАЮ,
НАРОДЖАНУЮ Ў БАРАЦЬБЕ,
ДЛЯ БАРАЦЬБЫ АДДАЮ.
А БУДЗЕ ЯШЧЭ БАРАЦЬБА!
І ЯК ВАРТАЎНІЧЫ РАСЦВЕТА—
ГРЫМІЦЬ БАЯВАЯ ТРУБА
УЗБРОЕНАЙ ПЕСНЯЙ ПАЭТА!

## СУСТРЭЧА
## З ТАВАРЫШАМ СТАЛІНЫМ

Падымайся, сонца! Я ўжо вышаў з хаты!
— Добры дзень, прасторы, добры дзень, сябры! —
Я прынёс вам песню, як вітанне брата,
Хай яе, крылатай, ў даль нясуць вятры.

Ля крыніцы вочы я абмыў расою,
Я ўзышоў на ўзгор'е. Ціхі, ранні час.
Бацькаўшчыну бачу я перад сабою,
І як быццам бачу сёння ў першы раз.

Сонечным налівам поўняцца калоссі,
З ячменямі шэпчацца аксамітны лён.
Гэта мне сягоння ты, зямля, прыносіш
Поўнай жменяй дар свой, працы мужны плён.

Спелай хваляй жыта ў полі прабягае,
Гоніць статак сыты на байдан пастух.
Да зямлі калгаснай вуха прыкладаю —
Сталінскага сэрца чую роўны стук.

Грамадой вясёлай жаць ідуць дзяўчаты,
Запявалай поруч едзе трактарыст.
І ўзлятае песня і ляціць узнята!
Цішыня над пушчай, і не ўздрогне ліст.

І ляціць праз вёскі, гарады мінае,
Ёй — няма граніцы, ёй — адкрыты пуць.
Гэта наша песня—Сталіна ўслаўляе,
Людзі ў песнях радасць—Сталіну нясуць.

Падбягаюць дзеці з гаварлівам гудам,
Залатая дзецям расцвіла пара!
Дзе ні кіну вокам, бачу я — усюды
Вырастае веліч спраў правадыра.

Пагранічнік ходзіць лесам і балотам,
Пазнаю героя ў кожным патрулі.
— Сталін! — і падняліся ў неба самалёты!
— Сталін! — загрымелі танкі на зямлі!

Сталіна я бачыў у глушы Палесся,
Сталіна ў сялянскай хаце спатыкаў,
Сталіна я слухаў у народных песнях,
Сталіна ў дарозе сэрцам адшукаў.

Слаўнае спатканне! А ніяк не знаю
Як прынесці Сталіну ўсю любоў сваю!

. . . . . . . . . . . . . . . .

Я стаю на ўзгор'і. Песні я складаю.
Я пяю пра шчасце. Сталіна пяю.

## НОЧ У РАЗВЕДЦЫ

Галасілі хвалі зверам,
Раскідалі гнеўны гул.
Выплыў месяц з хмары шэрай,
Стаў з байцамі ў караул.

Ноч напоена пагрозай,
Кулі сыплюцца, як град.
Засцілалася Бяроза
Чорным дымам ад гармат.

І зямля стагнала горам:
Недабіты гойсаў пан.
Чуў я плач дзяцей Дукоры
Над магілай партызан.

Плач народа—
    Гнеў народа,
Слёзы гневу—
    Грозны шквал.
Хай спраўляла непагода
Свой крывавы карнавал,—

Курганы Напалеона
Сталі гнёздамі акоп!
Ноч ахутвала заслонай
Беларускі Перакоп.

* * *

Пад Барысавам палонным,
За Бярозаю ракой,
Войска арміі Чырвонай
Сабірала сілы ў бой.

— Ледзь над лесам сонца ўзыйдзе
Фронт прарваць, нанёсшы ўдар,—
Вырашаў Орджанікідзе—
Палкаводзец-камісар.

Ноч расой паіла кветкі,
Над ракой туман стаяў.
Рапарт пятае разведкі
Ў гэту ноч Серго прымаў.

Быў ён здзіўлены дакладам,
Весткі розныя ва ўсіх.
І сазваў ён на нараду
Камандзіраў баявых.

— Сілу ворага не знаем,
На які ступіў ён шлях?..
А ліпнёвая,
Густая
Ноч стаілася ў кустах.

Як дазор, дубы-сталеткі
Засланілі грамаду.
І сказаў Серго:
— У разведку
Сам, таварышы, пайду!

* * *

І таемна, ўнепрыкметку,
Цераз брод і шыр балот,
Вёў Серго атрад разведкі
Тылам ворага ў абход.

За балотам—лес бяскраю,
І бяскрайняя імгла.
За вярстой вярста мінае,
Ноч густая,
Што смала.

Пад нагамі голле хрушчыць,
Гоман хвоі кладзецца ніц.
Ўзлёт агню гармат над пушчай,
Як трывожны ўзлёт зарніц.

Шлях расчысціў куляй меткай,
Вёў атрад у стоме сіл.
Дваццаць вёрст
Прайшоў разведкай,
Дваццаць вёрст
Зайшоў у тыл.

На дапрос за трэцім—следам
І чацверты ўзяты пан.
Ад паноў Серго разведаў
Пра апошні польскі план.

З думай дум сваіх, з развагай
Ён, схаваўшыся, ляжаў.
Беларускіх смачных ягад
Першы раз пакаштаваў.

* * *

Дзень мінуў. Зноў ноч стагнала
Віратлівым гулам хваль.
Ноч дарогі ў змрок схавала,
Змрок—як срэбраны паркаль.

Па расе паўзуць сапёры,
На ваду кладуць масты.
Будзе бой! І нават зоры
Гасяць блеск свой залаты!

Знаў Серго сакрэт недарам,
Полк байцоў адвёў тайком.
І, прарваўшы фронт ударам,
Закідаў ліхім агнём.

І ў атаку—на палякаў!
На акоп—штыкамі ў лоб!
Сталлю бралі, вызвалялі
Беларускі Перакоп!

* * *

Сонца рукі працягнула
Баявым сынам зямлі.
Поле радасна ўздыхнула,
Ветла сосны загулі.

Пераможцам насустрэчу
З бедных хат народ пайшоў.
Апускаўся ціхі вечар,
Славіў стомленых байцоў.

Ліпень, 1935 г.

## СЦЯНА БЯССТРАШНЫХ

Расце ў вачах людскіх крэмлёўская сцяна,
Праменны дзень яна жалобай засланіла...

Ад края ў край, як гнеў, як рокат перуна,
Грыміць салют над свежаю магілай.
Нясуць Рэспублікі апошні караул...
Як вал, праз Ленінград, ад Менска і Паміра—
Ідзе ў Маскву нястрымны, грозны гул:
— Будзь памяць вечная табе, таварыш Кіраў!

Каля труны твае настаўнік наш і твой
Схіліў чало сваё жалобаю і горам...

Тваё жыццё ад нас падкупленай рукой,
Рукой крываваю, так подла вырваў вораг.
Адкіды з брудных ям гісторыі, яны—
Як змеі, шнырацъ скрозь па шчылінах і дзірах.
Клянёмся, з іх касцей насыплем курганы.
— Будзь памяць вечная табе, таварыш Кіраў!

Марозам снежаньскім закована зямля,
Гудзіць уздыблены магільным стогнам вецер.

— Прымі бясстрашнага, прымі, сцяна Крэмля!
І плача смерці марш, нібы з Уржума дзеці.
Апушчаны ў бядзе галовы і сцягі.
Расплаты прагне кроў, бурліць у жылах вірам.
І буйная сляза лягла ў вянок тугі:
— Будзь памяць вечная табе, таварыш Кіраў!

Расце ў вачах людскіх крэмлёўская сцяна,
Праменны дзень яна жалобай засланіла.

Ад края ў край, як гнеў, як рокат перуна,
Грыміць салют над свежаю магілай.
Улаў салдат. Яшчэ шчыльней, жывой сцяной,
З'яднаем моц сваю пад сцягам камандзіра.
А прыдзе час—дадзім, дадзім смяротны бой!
— Будзь памяць вечная табе, таварыш Кіраў!

Снежань. 1934 г.

## ПАРАД ПЕРАМОЖЦАЎ

Выезд любімага намі наркома,
Любімага Кліма, з крэмлёўскіх варот—
Святочным салютам, як рокатам грому,
Вітае вялікі совецкі народ.

І голасам радаснага народу
Гучыць пераможна прысяга байцоў.
Крыляе кастрычніцкі сцяг пяцігодак,
Як мужнасць і кліч барыкадных баёў...

З трыбун маўзалея парад маладосці
Ўрачыста прымае таварыш Урад,
Парад абароны, парад пераможцаў,—
Чырвонае арміі грозны парад!

Праносіцца конніца волатаў-танкаў,
І шумам танкетак заліты прастор,
І нават праменні на аўта-тачанках,
Нібы першамайскага сонца дазор.

І поступам шквалу ідзе баявая
Нязрушнай сцяной маладая Масква,
Ідзе, наступае, і песня ўзлятае
Над краем магутнасці і хараства.

І ў дружбе братэрскай ідуць карнавалам
На сход красавання жыцця і вясны—
Лясы Беларусі і скалы Урала,
І стэп Украіны, і стэп Ферганы.

І крыллямі рэжучы сінюю трасу,
На штурмы высотаў плывуць караблі,
Плывуць дэлегаты рабочага класа—
Надземных савецкіх граніц патрулі.

Чоткая чутна работа матора,
Бясстрашны ў палёце пілот малады.
Хай чуе,
Хай знае,
Хай лютуе вораг,—
*Сталін*ізованы нашы рады!

Май 1933 г.

## НАРОДНАЯ УТРАТА

*Памяці рабочых-ударнікаў, дзяцей і экіпажа „Максім Горкі“*

Ты быў дзівам, быў гордасцю нашай,
Сцяг крылаты надземных дарог.
Лётны гул твой быў радасным маршам
Маршам—росквіту і перамог.
Раптам хлынуў у вочы туман:
— Намі ўтрачаны наш велікан!

Найбагатшых і сілай, і воляй
Я не ведаю ў свеце людзей.

Чалавек—як нідзе і ніколі,
Скарбу золата ў нас даражэй.
Раптам гора звівае наш стан:
— Намі ўтрачаны наш велікан!

На сваім караблі над Масквою
Сорак сем выдатнейшых плылі,
Сорак сем заслужоных герояў
Расцвітаючай нашай зямлі.
Раптам крык неспадзеваных ран:
— Намі ўтрачаны наш велікан!

Хваляй радыё—наша жалоба
Абляцела пад сонцам зямлю.
Над сябрамі, над жудасным гробам-
Я слязу Беларусі пралью.
Раптам смерцю прабег ураган:
— Намі ўтрачаны наш велікан.

Мы адкажам на смутак глыбокі
Тым, што ў сэрцы ў нас мужнасць гарыць.
Тым, што новыя ў лёце высокім
Будуць—„Ленін“, і „Сталін“, і „Горкі“—
Многаматорныя багатыры.
Будзе новы ў нас плыць караван:
За веліканам—
Велікан!

20 мая, 1935 г.

## ТЫ БУДЗЕШ ЖЫЦЬ, ЭПОХА!

Глядзеў я ўчора дзіўны фільм
„Чапаеў"...

Ажыўлены экран...
Ты пільна вока жмурыш.
А там, як з цемені,
Рассейваючы дым,
Ідуць, гудуць, насоўваюцца бурай
Незабываемыя—людзі і гады...
Ідуць байцы, чапаеўцы-героі,
Ідуць хадой бесстрашнай барацьбы.
І ты не ўседзіш, не!
Ты рвешся ў рокат бою!
Ой, ты не выседзіш,

Ты прагнеш з імі быць!
Змяінай сцежкай смерць
Ідзе да чалавека.
І што мне зал у мёртвай цішыні?
Я вырываюся!..
Сказаць пра небяспеку
Лячу к Чапаеву на ўзмыленым кані.
І замірае сэрца на хвіліну:
Няма Чапаева!
Вянком гарыць зара...
Я—цісну ў вочы ўглыб,
Я чую—слёзы хлынуць,
І не адзін я, не! Увесь зал, уся краіна:
Няма Чапаева... Героя... Змагара...
... Быў скуты я трывогай і спалохам,
Астаўся—ўзброены ўрачыстасцю вясны.
Не вырваць з памяці,
Ты будзеш жыць, эпоха—
Эпоха грамадзянскае вайны.

1934 г.

## ДЗЕ ЎЧОРА...

Дзе ўчора закінуты стыў пустыр,
Дзе пылам пакрытая дзіч векавала,
Выростае горда каменная шыр—
Веліч рабочых кварталаў.

Калісьці тут вецер байдосваў кусты,
І выў, як паранены воўк перад сконам.
І смерць тут свае насцілала масты—
стогнам стаялі праклёны.

Дыміўся малінавы золак зары,
А ў горадзе сполахам чад непагоды...
На дзікім, забытым людзьмі, пустыры
Было яно ўлетку дваццатага года—

Паўстаўшая сіла пайшла на дыбы,
Гарачай крывёй захлыналася бойка.
І тут нарадзіўся ў агні барацьбы
Дзень славы Чырвонага войска!

Мы ворага гналі. А горад, што корч,
Ён тлеў на гарбатых плячах сутарэнняў.
І дзень і ў змаганні ліпнёвая ноч
Зэялі зарывам вызвалення.

Ружовай расой быў заліты пустыр:
Акопныя слёзы... А ў памяці нашай
Хвілінаю плавіцца роспачы стынь
Акордам жалобнага марша.

І ўчора яшчэ быў разложны пустыр,
А сёння—людскім будаўнічым запалам
Вырастае горда каменная шыр—
Веліч рабочых кварталаў.

А сёння—праменныя вусны вясны
Ўрачыста пяюць у квяцістым прасторы.
Растуць камяніцы, нашчадкам—яны
Як помнік баёў непаўторных!

Мазырь, 1933 г.

## ШМІДТ НА ГРАНІЦЫ

*Яму раскрыты ў бацькаўшчыну насцеж*
*Вароты—браніраваных граніц...*

Вось ён пераступіў вялікую граніцу.
Вось прыбліжаецца.
І выбухам з грудзей
Грыміць салютам славы большэвіцкай
Прывет герою нашых дум і дзей.

Вось на трыбуне ён...
Сляды ў яго маршчынах
Пакінула раз'юшаная стынь.
Краіна з гордасцю свайго вітае сына,
Вітае з гордасцю сваю краіну сын.

І цішыня людзьмі запаланіла:
Гаворыць Шмідт...
Агонь ягоных слоў
Распальвае, як заклікам, у жылах
Маю імклівую, узбуджаную кроў.

... „Хай лютасць Арктыкі „Чэлюскіна“ зламала,
А радасць з намі, ў нас, яна пяе ў грудзях—
Бо працярэбім мы—праз лёдавыя скалы
Пад сцягам Сталіна—вялікі водны шлях!“

Вакол пяюць лясы, вяршаліны схіляюць.
А ў думках я з трыбуны гаварыў:
—Тваім вялікім імем называю,
Дзе ты радзіўся—
Горад на Дняпры.

Я падымаю сцяг наш прамяністы,
Я слаўлю песнямі цябе, наш барацьбіт.
— Гэй, Магілеў, святкуй сваю ўрачыстасць,
Ты будзеш, знаю,—
Слаўны горад *Шмідт!*

Негарэлае, 1934 г.

## ПЕСНЯ БОЛЬШЭВІКА

Мне мала помніцца былое,
Яно ў вачах, як дальні дым.
Прышоў-жа я праз рокат бою
Ў соцыялізм маладым.
Я не гарбеў (і мне не шкода!)
Ў ланцужны век лучын і лык —
І я шчаслівы, бо заўсёды
Шчаслівы той—хто большэвік!

Як цені ў цёмных сутарэннях,
Мільгалі дні жыцця бацькоў.
Я-ж слаўлю наша пакаленне
І нашу ўздыбленую кроў.

Іду з народам мужным ходам,
Ламаю ў злыдня воўчы клык—
І я шчаслівы, бо заўсёды
Шчаслівы той—хто бальшэвік!

Мая вясна!.. Нідзе на свеце
Такой вясны я не знайду!
Гуляюць дзеці. Сонца свеціць.
Я з імі гутарку вяду.
І разам з імі ў карагодах
Рассыплю звонкі смех і крык—
І я шчаслівы, бо заўсёды
Шчаслівы той—хто бальшэвік!

Ордэнаносная краіна,
Мая дзівосная, з табой—
Удвух быць пільнымі павінны
І на зямлі, і над зямлёй.
І ў ясны дзень, і ў непагоду
Я твой песняр і будаўнік—
І я шчаслівы, бо заўсёды
Шчаслівы той—хто бальшэвік!

Сакавік, 1936 г.

## ПЕСНЯ
## ПРОЛЕТАРСКАГА ЯДНАННЯ

Ад граду нядолевых слёзаў і поту
Зямля распухала, дрыгвою гніла.
Сынам беларускай нізіны балотнай
Сталеццямі вочы сляпіла, імгла.

Было так... Прайшло! У паўстаннях сканалі
Праклятыя сонцам і праўдай гады.
Вядзе нас—Рэспубліку сіл маладых—
Наш родны, любімы наш Сталін!

І ночы, і дні, рукавы закасаўшы,
На чорнае золата ў наступ ішлі,

А сёння—разлівам пшанічнага марша
Шумяць большэвіцкіх калгасаў палі.

Дзе багна стаяла, там рокатам сталі—
Гудуць там электракрывёй правады.
Ўзыходзіць там рунь маладой грамады—
Наш родны, любімы наш Сталін!

І там, дзе над полем і над гарадамі
Адвеку не быў дым фабрычнай трубы,
Сягоння—зазыўнымі клічуць гудкамі
Быць творцамі славы, шчаслівымі быць!

Мы шоўк даем з дрэва, мы спірт з торфу далі,
Мы з бульбы краіне даем каучук.
Наш поступ, наш росквіт і моц нашых рук—
Наш родны, любімы наш Сталін!

Як дбае садоўнік пра цвет-красаванне:
Мы дбайную чуем, з дзён панскіх руін,
Руку дапамогі, руку падтрымання,
Братэрскіх народаў, братэрскіх краін.

Таму толькі шчасцем мы ўсе заўладалі,
Што сэрцам з'яднаныя дружна раслі.
А нашае сэрца—ўсёй нашай зямлі—
Наш родны, любімы наш Сталін!

Скрышаючы косці разваліш старызны,
Грыміць перамогамі слаўны салют.
Агнямі ўрачыстасці соцыялізма—
Заліт рэволюцыі нашай маршрут!

Як злучацца ў вузел нястрымныя хвалі—
Нязломнае сілы народзіцца вір.
Вядзі, мы з'яднаны табой, правадыр,
Наш родны, любімы наш Сталін!

Снежань, 1933 г.

## СОНЦА І ПЕСНЯ

Калі ўзыходзе сонца –
Тады пяе—усход.
Калі пяецца песня,
Тады мілей паход.

Калі ідзем пад сонцам,
Калі наш грозны ход—
Тады ўскіпае песня,
Тады пяе народ!

І мы стварылі сонца
Са жвіру і руды,
І песню—
            За чатыры
                        Бяссонныя гады!

## НА ВЕКІ ВЯКОЎ...

Мяне разбудзіў тэлефонны званок...

Зара разлівае рабінавы сок.
У стайні ў дарогу сядлаюць каня.
З трывогай з дарогі бяжыць цішыня
Ад гулкага поступу спелага дня.

Мяне ля дарог спатыкаюць бары...

Вядуць пераклічку ў палях трактары.
Праменні ліюцца праз тысячы сіт,
Абапал бяжыць баравы аксаміт,
Далёка плыве чоткі цокат капыт.

Прачнуўся ў лістах залатых лістапад...

Я еду ў калгас, як таварыш, як брат,
Там свята сягоння, там росквіт прышоў,
Там радасць выходзе з сваіх берагоў:
— Зямлю атрымалі на векі вякоў!

Спяшаюцца вёрсты і думкі, і час.
Калгас весяліцца. Святкуе калгас.

27|IX-35 г.

## І ПЯЕ ЎЛАДАР...

Як на выспе, сіратой,
Векавой расло журбой,
Абяздоленым расло
Адзінокае сяло,
Век бяспраўнае.

Агнявой сваёй хадой
Сонца новае ўзышло.
Беднякоў сяла—было
Сонца ў людзі павяло
Сцежкай слаўнаю!

А было, было-ж яно,
І яно не так даўно,
Над аголеным сялом
Лётаў белы буралом,
Смерцю ўспенены...

Ды з лясоў, палёў, балот—
На паноў пайшоў народ.
Гром грымеў грудзьмі дарог,
Узнімаў дзень перамог
Славу Леніну!

Годы бурныя прайшлі.
Мы пачулі пах зямлі,
Мы пазналі смак зярна,
Нават сонца і вясна
Родным сталі нам.

Каласіцца шыр палёў
Без граніц і берагоў.
Хлеб у нас, у нас і мёд,
І пяе ўладар-народ
Славу Сталіну!

Магілеў, 1933 г.

## ВЕЧАРЫНКА

Збірайцеся, людзі,
Рыхтуйся, дачка,
Сягоння мы будзем
Скакаць „казачка".

Дачушка, Карынка,
Яно ў першы раз,
У нас вечарынка,
Гулянка—у нас!

Эх, тупну сягоння,
Дарма, што сівы.
У бубны зазвоніць
І шум барвы.

І так разыйдуся,
Аж пыл шугане.
На ўсёй Беларусі
Пачуюць мяне.

Пачуюць, пазнаюць.
На ўвесь наш раён,
Дачушка, мы маем
Найбольш працадзён.

І сёння сабрацца
Прышоў наш народ:
Табе—восемнаццаць,
Мне—семдзесят год!..

Жылося гаротна,
Ой, шмат перанёс.
А рос, як балотны
Расце вербалоз.

Заўсёды ў стадоле
З жывёлаю спаў.
Ні хлеба, ні солі
Ніколі не знаў.

Армяк саматканы
І лапці з лазы.
Улетку—туманы,
Вясной—маразы.

Гарбеў я на трутняў
І тлеў, нібы пень.
Эх, тупнем, прытупнем
За сёнешні дзень!

За плённую працу,
За буйны ўмалот,
За ўсе—восемнаццаць
І семдзесят год!

Не ведала-б свята
Сваіх багацтоў—
Каб раптам у хату
К нам Сталін зайшоў.

Я пэўна-б заплакаў,
Як плача дзіця,
За шчасце ў падзяку,
За радасць жыцця.

Ды з Сталіным разам
За стол-бы я сеў,
Пытаўся-б, расказваў,
І ў вочы-б глядзеў.

Ён, ветлівы, трубку
Пачаў-бы курыць...
Дачушка, галубка,
Як весела жыць!

І чарка, і скварка,
І хата свая,
Ты стала — даяркай,
І конюхам — я.

І сёння, мы, братцы,
Пем кубкамі мёд —
За ўсе — восемнаццаць
І семдзесят год!

Снежань, 1935 г.

## ПОЎНАЛЕЦЦЕ

Сягоння я пацалаваў дзяўчыну...

Дарогі ўсе расчынены гасцінна:
Равесніца Кастрычніка, як песня —
Сярод дзяўчат, сярод сваіх равесніц
Выходзіш першаю на радасны парад.

А вецер сцелецца вітаннямі на свеце...

Тваё, дзяўчына, сёння поўналецце!
Ты парадзілася, — калі свінцовы град
Распальваў гнеў і мужнасць барыкад,
І дым руін гушкаў тваю калыску.

Мінаеш восемнаццатую восень...

Ты—маладосці нашай сцяганосец!
І нават сонца асядае нізка
З сваіх вышынь, нібы парашутыстка,
Каб поруч стаць, шчаслівая, з табою.

І словы шчырыя найлепшых дум сабраў,
І, як таварыша, як друга, як героя—
Дзяўчыну бацькаўшчыны ў песнях цалаваў...

Лістапад, 1935 г.

## СТАРЫ МЕНСК

От, быў гарадок...
Ен з далёкае даты
Правінцыяй звацца звык.
І адвеку было:
        Па-першае—губернатар,
        Па-другое—капліца,
        Па-трэцяе—гарадавы.
І была Серабранка,
А там—
Свінабойня была
І прытоны.
І была яшчэ там беднята,
Ў сутарэннях таіўшы стогны.

І было яшчэ—цэльны стан
З палісаднікам і кароўкай:
Гэта сан—
Беларускіх мяшчан
Ад Пярэспы і да Камароўкі,
Што ад Кальвары і да Кашараў
Праз Нізкі рынак
І—шырай—
Алкагольным, як чад, перагарам
Атручвалі нас тракціры.
Анучамі ў вокнах разбітых
Крычалі гарбатыя хаты—
Знясіленым крыкам рахіта
І крыкам сухотаў праклятых.
І ў гонар губернскай управы,
З каровамі ў перагонку,
Па рэйках кацілася млява,
Людзьмі абсмяяная, конка...
Пакуль навальніца з Усхода
Пранеслася вогненным шквалам—
Праходзілі людзі і годы
І ўцехай катрынка іграла...

1932

# НОВЫ МЕНСК

## I

Красуй, сталіца маладая,
Твой бурны дзень,
Твой горды рух,
Твой стан, як слава, вырастае
Гадам свінцовых завірух.

Як слава тым, хто стаў ахвярай:
Хто залатому груганў
Пад чорным сцягам смертнай кары—
Не прадалі тваю вясну.

Яна расцветам сіл іскрыцца,
Граніц не ведае расцвет.
Вясну тваю пяю, сталіца,
Я—сын табе,
Я—твой паэт.

II

Бываць парой люблю ў архівах,
З падзей далёкіх скіну пыл.
І, прад вачыма, палахліва,
Ўстае мінуўшчына, як дзіва,
З забытых кніг, нібы з магіл.

Хай князь, хай кат, хай губернатар,
Кладу жыццё іх на далонь,
І пранясу ля кожнай хаты,
І людзі ўбачуць: кроў і краты,
І цмяны ладана агонь.

Праявай спадчыну, сталіца,
Тваіх вякоў сівую быль,
Пусціў я нанач заграніцу,
Хай нашым ворагам прысніцца,
А з ёй, як герб, яе кастыль!

## III

Быў ліпень месяц, год дваццаты,
На барыкадах і касцях—
Тваёй гісторыі пачатак,
Пачатак нашага жыцця.

Сляды калоніі ганебнай
Мы выкарчоўваем ушчэнт.
Размах ушыр і ўвысь патрэбны
Табе, мой родны, новы Менск!

Як воўк, стаў выць варожы вецер,
Ты-ж, як застава, на мяжы.
Я не знайду людзей на свеце,
Якім было-б так добра жыць!

Калыску росквіту над краем
Народ падняў вітаць вясну.
А там... на Захадзе—ўздымаюць
Пад стогны голаду—труну!

## IV

Красуй, совецкая сталіца,
Твой бурны дзень, твой горды рух,
Твой стан, як помнік большэвіцкі
Гадам свінцовых завірух!

Лістапад, 1934 г.

## ЖЫВІЦЕ СПАКОЙНА, НАРОДЫ СОВЕТАУ!

На кліч роднай партыі цвёрда,
З уздымам,
Ідзе маладосць нашай гордай
Радзімы.

Ідзе маладосць нашай шыры
З'яднацца—
У грозную армію міра
І працы!

Ім сцежкаю сцелюцца кветкі-
Вяснянкі,
Вітаць іх выходзяць танкеткі
І танкі;

І строй самалётаў высоты
Займае,
І сонца, як дзіск кулямёта,
Ўсплывае...

Іх пільнаму воку—дазору
Граніцы
І здрадная цемень, як вораг,
Скарыцца.

І пройдзе іх слава заўсёды
Над светам.
Жывіце спакойна, народы
Советаў!

1931

## МАЁ ВІНШАВАННЕ

*Янку Купалу ў дні 30-годдзя творчай дзейнасці.*

Спявай, паэт! Хай узлятае,
На славу новым людзям края,
Як сокал, песня баявая—
З усіх дарог!
З усіх дарог!

Спявай, паэт! Ад сэрца зычу:
— Твой голас, знойдзены ў Кастрычнік,
Няхай гучней пяе і кліча—
Да перамог!
Да перамог!

27 мая, 1935 г.

## ТАВАРЫШ-СЫН

Сыну-таварышу—пяць гадоў,
Не вартае ўвагі грамадскай падзея.
Звычайнае з'явішча: ў вочах зарэе
Разлівамі радасць і гонар бацькоў.
Ім свет урачыстасцю сёння авеян:
Сыну-таварышу—пяць гадоў.

Як стухне прамень на заморскай скале,
І чэрвеньскі вечар прысядзе на ганак,
У сына жаданне спаткаць нечакана
Бацьку свайго, што з работы. Але—
Надзея спаткання стапнее ў туманах,
Згасае прамень на далёкай скале...

Гудкі загулі, і дасада прышла,
Нецярплівасць маленькага хлопчыка точыць.
Ен сёння-ж убачыў на ўласныя вочы
Як робяцца шклянкі на фабрыцы шкла.
Дзе-ж бацька? Навінамі ўсцешаны хлопчык,
Гудкі загулі і дасада прышла.

.. Ледзь золак з блакітных сваіх берагоў
Для сонца ў прасторах цярэбіць пуціну,—
Бацька ўстае, падыходзіць да сына,
Сыну-таварышу—пяць гадоў.

Радасць румянцамі шчокі залье,
Жаданне паслухаць—(пачуцці не стынуць!)
Слова жывое ад любага сына
Прачнуўся прамень на далёкай скале...

Прыветная ўсмешка на твары расла,
І прабягала, як змейка, ў маршчынах;
Ён гладзіць так ласкава соннага сына...
Гудкі загулі, і дасада прайшла.

На працу задуманы бацька пайшоў,
А горад гудзіць пераклічкай гудкоў.
Рупіцца бацька, на працу ідзе,
Ідзе, разважае:
— Ў выходны дзень—
Ніякай нарады, ў канцы-ж канцоў
Сыну-таварышу—пяць гадоў!

4-Х 1932 г.

## НОЧ

Эх, ночка! Маладзіцаю
Ты да мяне прышла.
Міргнуўшы мне зарніцаю,
Сузор'ем расцвіла.

У росквіце шавеліцца
Пралескавы кавёр,
Ён сіняй хваляй сцелецца
Ў абуджаны прастор.

Сады шуршаць вішнёвыя,
Што беласнежны шоўк.
Эх, ночка! Ноч вясновая,
Я ў глыб тваю пайшоў!

Сузорнымі хвілінамі
І рад я і не рад.
Дарогай-пуцявінамі
Іду я да дзяўчат.

Я з песняй, як з сястрыцаю,
Абняўшыся, іду.
З заранкай зараніцаю
Свой зговар я вяду:

— Хутчэй, заранка ранняя,
Ўзбудзі святлом зямлю.
Чураюся кахання я,
Бо я дзяўчат люблю.

Май, 1955 г.

## ГАЛОДНАЯ РАНІЦА

Змрок ночы знікаў, акрываВіўшы брук,
І месяц каціўся ў свой нетравы люк.
Зарніцы ўзвіліся спалохам агня,
Нібы вешчуны гаратлівага дня.
Смяротная, чорная роспач расла—
Галодная раніца ў горад прыйшла.

Галодная раніца—значыць вайна,
Каб высмактаць кроў у рабочых да дна.
Налёты фашыстаў—як чад, як чума!
А працы, а хлеба, а хаты—няма.
Кідаюцца людзі ў бурлівую муць—
І трупы галодных па Рэйне плывуць.

Работніца-матка ўзышла на гару,
Пракляццем яна сустракала зару:
Сын з голаду згінуў. Расстрэлены муж.
— Каму ўсходзіш, сонца? Скажы мне, каму?..
Расплатай лягла ёй на грудзі зямля.
Як помнік магільны—на дрэве пятля.

Галодная раніца. Хлопчык малы
Падпольны лісток прадае з-пад палы,
Пазнаў слова „Ленін“—таемна пазнаў
На сценах таемна яго ён пісаў:
Яно-ж акрыляла, як новая рань,
Як здань комунізма, шчаслівая здань!..

Красавік, 1935 г.

## РАМАНС НА КОНКУРС

1932. Польшча. Крызіс. Тысячы беспрацоўных. Голад. Як сродак выйсця з гэтага становішча, газеты абвясцілі конкурс на раманс, які будзе выконвацца ва ўсіх рэстаранах з мэтай напомніць публіцы пра беспрацоўных і абудзіць пачуццё дапамогі.

Лічу патрэбным адгукнуцца на „конкурс" віленскіх газет—пасылаю напісаны мною раманс.

Забаўляйцеся, ўскрыляйце весялосць,
Бакалы падымайце, як штандары...

Мяцеліцаю смерці і пажараў
Галодную айчызну замяло.
Гуляй, душа! Склікай, душа, жандараў
Скрышаць ушчэнт няўмольнай чэрні косць!..

Эх, забаўляйцеся, ўскрыляйце весялосць,
Бакалы падымайце, як штандары...

Ўзлятай, факстрот! Шугай мільёнам зор!
Змушайце кроў віном пераліваццa!

Барыкадамі сыны прыгоннай працы
Большэвіцкае адточваюць лязо.
І хмелем роспачы, ад штурму ўратавацца,
Панове ўславілі раз'юшаны тэрор!
Ўзлятай, факстрот! Шугай мільёнам зор!
Прымусім кроў віном пераліваццa.

Ах, вочы чорныя! Сузорная імгла,
Ты раніш сэрца непакорнай львіцай.

А на вуліцах бунтуе навальніца:
Крамы ўзломаны, вакол асколкі шкла.
Няўжо айчызна змушана скарыцца?
Дзе чэсць сталеццяў белага арла?..
Ах, вочы чорныя! Сузорная імгла,
Ты раніш сэрца непакорнай львіцай.

Са скал жыцця ўзлятай на крыллі хмар,
Ратуйся ўвысь, як сокал, лётаць здолей!

Слязмі заліта ўся айчызна; як ніколі—
Самагубствы, голад, пошасць і турма.
А з-пад зямлі, з глыбокага падполля,
Ракоча лаваю—падрыхтаваны ўдар!..

Са скал жыцця ўзлятай на крыллі хмар,
Ратуйся ўвысь, як сокал, лётаць здолей!

За шэлест радасці, за лоскаты пяшчот—
Апошні тост, аркестры, дуй мазурку!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І гнеўна, вал за валам, шматмільённым гуртам
Ідзе народ узняць пераварот!
І задымяцца ў выбуху турэмныя падмуркі:
Вызваленне грозны, але шчаслівы год!

Менск, 5|ІІ 1932 г.

# ПЕРШАЕ СЛОВА

*З рускай паэзіі*

Ішлі праз Менск атрады франтавыя:
Ваякаў панства гналі змагары.
Першы раз убачыў вас тады я,
Беларусі песняры.

Не забыцца мне пра кіпы звязак
Беларускага пісьма.
І легенд, і вашых дзіўных казак
Прыгажэй нібы няма!

Ды жыццё ўсе казкі перакрыла.
Гул бадзёры мкне з усіх канцоў.

Сёння ў Менск—вясёлай, быстракрылай—
Ідзе сям'я совецкіх песняроў.
Ідзе з Масквы, і з Кіева, Казані,
Ідзе з Тыфліса і Баку.
Рознасць моў, а шлях адзін яднання,—
Шлях адзін заўжды большэвіку.

Пра майстэрства будуць іх размовы,
Пра паэтаў усіх і пра сябе.
Дый між слоў хай будзе першым словам
Ваша слова аб барацьбе.

Аб барацьбе прыгожай і бясстрашнай,
Аб барацьбе, дзе нашых сіл разгон.
Аб барацьбе, дзе слаўным сцягам нашым
Мы адзначым смерць фашысцкіх дзён.

Аб барацьбе суровай і развежнай,
Рашаючай сусветнай барацьбе,
Прызыўны кліч свой да сям'і мяцежнай,
Баявой, рабоча-зарубежнай,
— Забыўшыся, на час, аб флейце нежнай—
На баявой патрубім мы трубе!

*Дзям'ян Бедны*

## ПАРТЫЯ ВЯДЗЕ

*З украінскай паэзіі*

Дык няхай сабе як знае
Зграя чорная канае,
Нам сваё рабіць!
Як бяду сваю былую,
Ўсіх паноў і ўсіх буржуяў
Будзем, будзем біць!
Будзем, будзем біць!
І не дзіўна, што так горда,
Так упэўнена і цвёрда
Мы расцём, расцём.
У паходах мы заўсёды
Ўсім прыгнечаным народам

Руку падаём!
Руку падаём!
Ажыўляем горы, воды,
Выбудоўваем заводы—
Працы буйны плён.
Загрымеў, як гул паводкі,
Гул вялікай пяцігодкі—
Славай нашых дзён!
Славай нашых дзён!
Сіла арміі Чырвонай
Сцеражэ спакой кардона,
А ў паветры флот—
Пераможцам ён крыляе,
Ён рэспубліку ўздымае
Смела, да высот!
Смела, да высот!
І бадзёры, і вясёлы
Поступ сілы комсамола,
Шчэ й падмога йдзе—
Збольшэвічанае эры
Піонеры, піонеры—
Партыя вядзе!
Партыя вядзе!
Не на Рэйны, не на Марны,
Ў МТС пашлем друкарні—
Гэта ў нас, у нас!
Мы трывожым стратасферу,
Ядро атама і сферу—

О, дзівосны час!
Непаўторны час!
Непаўторны, сонцам свеціць,
Хто дужэй за нас у свеце?
Ды з якіх краін?
Мы красуем творчым плёнам,
За калонамі калоны
Дружна, як адзін!
Дружна, як адзін!
Дык няхай сабе як знае
Зграя чорная канае,
Нам сваё рабіць!
Як бяду сваю былую,
Усіх паноў і ўсіх буржуяў
Будзем, будзем біць!
Будзем, будзем біць!

*Паўло Тычына*

# РАНІЦА

*З яўрэйскай паэзіі*

Раніцай—трактар, як медзь заранiц,
Як золата, трактар—у поўдзень гарыць.
Увечары—трактар сталёвы, як змрок,
Трактар—уночы і голас і зрок...

Ледзь выгляне золак над роснай зямлёй—
На полі ўжо трактар вёў наступ свой,
Не спаў і раз'юшаны воўк... Заўжды
Крыжуюцца трактара й воўка сляды.

Зялёны воўк, як біты злодзей,
З галодным блескам у вачах

На поле выглянуць выходзе,
Выходзе выглянуць на шлях.

Дрыжыць сырой абдзёртай скурай,
Ў зубах, што косць, трымае злосць...
Стаіць на ўзлессі гнеўны, хмуры,
А ў лесе—гоман, весялосць!

Стаіць адзін... Разбіта зграя...
Куды падацца? Шмат шляхоў...
І вые, вые, завывае,
Выццём распальваючы кроў.

І вые, вые ў адзіноце.
Куды пайсці? Куды? Куды?
А лес, ад сонца, ў пазалоце!
А лес пяе—на ўсе лады!

І гулка трактары ракочаць
На расцвітаючых палях.
А воўк—кульгаючы, скрыгоча,
У вачах ваўка—смяротны жах!..

*Ізі Харык*

## АЛАЗАНСКАЯ НОЧ

*З грузінскай паэзіі*

Плывуць з Алазані туманы,
Дождж прайшоў над касматай травою.
Пастушок падышоў к Алазані,
Як алень падышоў к вадапою.

Алазань засвітала зарніцай,
І скаціна прайшла па дубравах,
Каб у чорную ноч праваліцца,
Каб ноч горная—стала праявай...

Топча быдла і травы, і кочкі,
І зялёнае даляў аблічча.

Ноч сузорная сцелецца ў вочы,
Ночка горная зорамі кліча.

Вось бычок, нагуляўшыся, змоўкнуў,
Ён да рэчкі спяшаецца, жвавы.
Гэтай ноччу клычастага воўка
Куляй гнаў пастушок кучаравы.

Ён сядзіць і кінжал навастрае,
Бурку ўскідвае ўзбураны вецер.
Пад чангуры пастух распявае
Пра дзяўчыну найлепшую ў свеце!

Ноч мінала туманам, як дымам,
І аўчарка так пільна, так дбала—
З агнявымі, як сонца, вачыма
Сон свайго пастуха пільнавала...

*Іло Мосашвілі*

# ГРАНІЦА

*З рускай паэзіі*

За Менскам вырасла сцяна,
Плячо ў плячо ўстае сасна,
Схіліўшы долу вецці,
Гудзіць пад небам стынь зімы,
На перамёрзлыя дамы
Сухое сонца скупа свеціць.

Калючы дрот—за радам рад.
Тут—пагранічнікаў атрад
Жыве, гартуецца ў дазорах.
І ўдзень, і ўноч вартуе ён
Трывожны гул, зялёны стон.
Лясоў закутых—люты шорах...

Іх акружае лёд і сталь,
Суровай здрадай вые даль,
І нават зоры зледзянелі.

На варту ўзброена ідуць,
І снег рассыпчаты мятуць
На лыжах доўгія шынелі.

За Менскам стыне шыр-прастор,
А воку пільнаму не спіцца,
Там, дзе шуміць сасновы бор,
Там—наша моц, там—наш дазор—
Чырвонаармейская граніца!

*Нікалай Асееў*

## I. КЛАСАВАЯ СУТНАСЦЬ ЗЯЛЁНАГА ГОМАНУ

Стаю ў бярэзніку на беразе мяжы
Ї хваль вясны я чую пераклічку.
Зялёны гоман моўчкі, таямніча
На колах сполаху
Да нас перабяжыць.

Зямля совецкая крынічнаю расой
Акропіць ласкава замучаныя крыллі
Братэрскай дружбаю,
Так шчыра, між сабой—
Пра становішча краіны гаварылі.

Я —
Прыкладаю вуха да зямлі,
Калісь рабілі гэтак прадзеды ў дазоры,
І чую гутарку,
А гутарку вялі
Заходне-беларускія прасторы.
Гаварылі віленскія гоні:
— Ой, вясна!
Кроў і слёзы нас палоняць,
— Ой, вясна!
Вецер поле барануе,
— Ой, вясна!
Голад з пошасцю пануе,
— Ой, вясна!
Шнурам петлі на прысадах,
— Ой, вясна!
Славяць карныя атрады,
— Ой, вясна!

Вясна гарачая, сярдзітая вясна,
Дыміцца ўздыбленай трывогай над зямлёю...
Вось як рукой падаць,
А гэта за мяжою —
Атручана крывёю цаліна.

Сівога веку свішча прыгавор:
— Хто кваліцца прасіць
„І хлеба, і работы“ —

Гуляй—
Нямецкі звон варшаўскіх шпор,
Шляхі ўсцілай касцьмі,
Як грэблю на балотах.

Бярозка стромкая.
Сасонка,
Нават куст, —
Жывыя сведкі дзікага разгулу—
Шуршацца роспаччу жабрацтва і пакут
Над грэбнем хваль—
Падземных грозных гулаў.

І чуе сэрца гул падземны:
— Сей агонь!
Падымайся, пад'ярэмны,
— Сей агонь!
У далінах Віслы, Шары,
— Сей агонь!
Край збярэ ўраджай пажараў,
— Сей агонь!
Больш агню—запалу болей,
— Сей агонь!
Воля родзіцца ў падполлі.
— Сей агонь!

## II. МІТЫНГ ПЕРШАЙ БАРАЗНЫ

Стаю журботны я на паграніччы-ўзгор'і.
Ў вачах снагліцца крыўда і туга.
Ахвяра чорных дзён
Жандарскае гісторыі
Краіна—голаду, бяспраўя, ланцуга.

А праз лясы, праз горы
І азёры—
Ходзіць маці, згорбленая горам,
Маці згінуўшых сыноў.

І шукае—
Удзень і ўноч
Па свету
Гэтак змучаная, скрыўджаная гэтак,
Маці згінуўшых сыноў.

А шуміць ля возера аер,
А возера хвалюецца прыбоем:
— Ты вытры слёзы горкія свае,
Твае сыны спаткаюцца з табою.

Дзівіся, зарывам іскрыцца ў полі рунь,
Зялёны дым стаў горкім, як ніколі.
Вітаць узброена шчаслівую пару
Твае сыны гартуюцца ў падполлі.

І без сярпа, і без касы-нажа
Няўжо выходзілі ў жніво і касавіцу?
Ой, загудзіць
Нявольніцкі ўраджай
Агнямі вызваленчай навальніцы!

І слёз тваіх гарачае зярно
Узбожваецца рунню агнявою.
— Твае сыны пад сонцам будуць зноў,
Твае сыны спаткаюцца з табою.

Ты чуеш? Чуеш?.. Ёсць сыны твае
На выспах катавых у катаржным палоне.
І загудзела возера, і загудзеў аер,
І маці сціснула рукамі помсты скроні.

Каму вясну за кратамі ўтрымаць?
Хто сонца-полымя паставіць на калені?
Хай сёння край—суцэльная турма,—
Турма таксама кузня вызвалення!

Калі зямлю засцелюць туманы,
Заслоняць хмары дзень праменнатканы,
Тады—
Ўзрываюцца раскатам перуны
І пачынаецца мяцеліца маланак.
І гэта будзе! Ён ужо гатоў—
Віхор расплаты, шчасця і спакою.
Твае сыны пад сонцам будуць зноў,
Твае сыны спаткаюцца з табою.
Узнік раптоўна мітынг-сход вясны.
Загаварылі ўсе—
Расняты хто прыгонам.
Расла ўрачыстасць першай баразны,
Гарэў закат агнём сцягоў чырвоных.
— Першай баразной
Наступны дзень вітаем,—
Гудзеў гушчар лясны
На мітынгу вясны.
А водгулле—стралой:
— О-ой,
Будзе бой!
— Першай баразной
Мы гнеў свой ускрыляем,—
Гудзелі курганы
На мітынгу вясны.
А водгулле—стралой:
— О-ой,
Будзе бой!

І маці выпрастала стан. Яна—
Загаварыла голасам сыноў закатаваных:
— Пачаць сяўбу!
Чым больш агню-зярна,
Хутчэй залечыць раны
Край забраны!

## III. ДЗВЕ БЕЛАРУСІ

Як бізунамі спалосана цела,
Пакрыта рубцамі глыбокіх ран,-
Спалосана поле шнурамі надзела,
Адвеку вялікім няшчасцем сялян.

Палоскі-шнуры, як турэмныя краты,
Напоены потам, слязмі і крывёй.
Я бачу ў няволі заходняга брата,
Дугою спіна—за матыкай-сахой.

Стаю на граніцы світання і змроку.
На Захадзе кроплямі стыне зара.
А поруч—на нашых прасторах глыбокіх
Зарніцамі песні крыляцца, гарацъ.

І толькі—ледзь раніца перастулае
Туманам уночы пракладзены мост,
Выходзяць у поле і песню спяваюць,
І песня зліваецца з шумам бяроз:
— Узыходзе сонца, маладое сонца,
Гэй, да гэй!
Гоніць вецер хмары, гоніць валаконцы,
Гэй, да гэй!
Засяваем поле, поле барануем,
Гэй, да гэй!
І спяваем песню, песню палявую,
Гэй, да гэй!
Будзе каласіцца жыта і пшаніца,
Гэй, да гэй!
Сокам нашай працы будзе налівацца,
Гэй, да гэй!
А ў жніво нам праца дасць узнагароду,
Гэй, да гэй!
Намалоцім хлеба, нарыхтуем мёду,
Гэй!

Вясна ў маладым і нястрыманым русе,
А там... нават гоман спалоханы сціх.
Сягоння—мяжуюцца дзве Беларусі,
Непараўнальныя два жыцці.

## IV. СОНЦА У ТРУСІКАХ

Купаецца ў азёрах дзетвара,
І сонца ў трусіках з дзятвой за панібрата.
Чаму-ж не радавацца сэрцу песняра?
Прыход вясвы—вясёлкавае свята!
Вачэй пралескавых чалмой віецца дым,
У хвалях зарасляў аветраны нырцуе.
Уздымам рокатным, зазыўным, маладым—
Дзень росквіту—маёўкамі святкуем!

Большэвікі—ў святочны дзень заўжды
Сваю гатоўнасць зверацъ баявую...
Як рапартуюць перамогай—гарады,
Яшчэ не знаныя дагэтуль—гарады,
Ў баях народжаныя намі—гарады,—

Ураджаем будучыні нашай
Чую—
Збожжавае поле рапартуе!

Як разгараецца прадвесняю зара,
І без граніц, як покліч песняра,
Як шчасцем перамогі змагара,
Наступных дзён рунее карман'ёла.
Прыход вясны ўрачысты і вясёлы!
І гіне-рушыцца адвечных крыўд гара,
І рассыпаецца палёў адвечны сполах.
І сонца ў трусіках, як тая дзетвара,
Гартуе мускулы разбежным валейболам.

1932 г.

## I. ГНЁЗДЫ НАВАЛЬНІЦ

Жыў Янук і з года ў год
Гараваў.
Пасвіў скот, кулацкі скот
Гадаваў.
Аддаваў ён кулаку
Маладосць.
Лёс пакінуў Януку
Злосць.

Ён парой, у забыцці,
Каля гаю,
Аб сваім благім жыцці
Заспявае.

Песня хлопцу сэрца раніць.
Ой, расчуліць!
Ён-жа вырас на байдане
Без матулі.
І хвілінай лятуценнай,
Быццам сон,
Марыць, што, як птах-прачэнны,
Узвіўся ён.
Хоць на крылах мар юнацтва,
Ў добры час!—
Хоча з праўдай ён спатканца
Хоць-бы раз.
А ў якой яны староньцы?
Дзе той пуць?
Ты скажы, вандроўнік сонца,
Добрым будзь!

Шмат краін Янук мінае,
Ой, дарма!
Праўду кліча ён, гукае
І няма...
Рэжа крыллем сакаліным
Неба шоўк.
Праўду родную ў краінах
Не знайшоў...
Вось у думках бачыць горы,
Выспу скал.

А ля гор бушуе мора,
Грозны вал.
І здалося—вось маячыць
Гнеў-скала.
Праўду тут Янук убачыў,—
Тут жыла.
Падышоў. І так нясмела,
Ў першы раз,
Праўда ветліва сустрэла
Всем ласк.
Сеў, як з маткай, з праўдай разам,
Пра свой лёс
Гаварыў Янук, расказваў
Мовай кроз.
І расказваў доўга-дбала
Казку-быль.
Слова кожнае ўставала
На дыбы!
Праўда слухала і ў вочах
Кроплі слёз:
Шмат Янук жыццём сірочым
Перанёс!

Поўз густой сцяной аднекуль
Статак хмар.
Давіць грудзі сіла здзеку,
Як цяжар.
Праўда слухала стаіўшы

Гневам дух.
З дзідаў сказ нядолі вышыў
Наш пастух.
І сказала Праўда: — „Хлопча,
Прыдзе Восень,
Быць таму, чаго ты хочаш,
Што ты просіш!
Прыдзе Восень новым светам
І не госцем,
Люд такой не знаў дагэтуль,
Наша Восень!..“
І яшчэ сказаць хацела,
Ды з-за гор, —
Хмар навала загудзела,
Выў віхор.
— Праўда, дзе ты?
След загінуў,
Знік, няма.
. . . . . . . . . . .
Эх, ты, слаўная хвіліна,
Слодыч мар!..

Каля выгану, на ўзлессі,
Ў хмызняку,
Ружай свет здаецца ў песні
Януку.
Восень прыдзе, ой скарыцца
Хціўны шквал.

— Дзе вы, гнёзды навальніцы,
Выспа скал?..
Водзіць думак сонцалітых
Карагод.
Не дагледзіў, травіць жыта
Уласны скот.
Віхрам быў Янук ускочыў,
Дый бяда:
Перад ім—не верацъ вочы—
Гаспадар!
Янука кулак дубінай
Каласіў.
І таптаў, як тую гліну,
Колькі сіл!
Біў ён з ярасцю зацятай,
Люта біў,
Збіў да смерці, і ўжо ў хату
Не пусціў.

Ледзь устаў, пралежаў ніцам
Да зарніц,
Ледзь падпоўз ён да крыніцы
Кроў абмыць.
А закат з агню праменняў
Звіў вянок,
І, як сейбіт, шчодрай жменяй
Сеяў змрок.

## II. АБУДЖЭННЕ СІЛ

Варам салоным ад слёзаў былі—
Міналі дні...
Єкрогатам жвіру курганнай зямлі—
Міналі дні...

Роспаччу лётаў па свету смерч,
А дні ішлі...
Слалася мостам свінцовая смерць,
А дні ішлі...

Выла зямля ад грымот перуна,
Стагналі дні...
Білася свістам крыві вайна,
Стагналі дні...

Грознае тут пачалося яно,
	Паўсталі дні!
Ленін праз вогнішчы вёў стырно,
Уздрогнула мора людскога дно,
Праўды ўзышло агнявое зярно,
Гневам рунела ў вачах яно,
Абуджанай сілай шугалі агні—
	Паўсталі дні!

## III. ПРАЗ ГАДЫ

А праз гады, праз радасць і самоту,
Праз жах і роспач катавых налётаў,
Праз партызанскую гарэзную адвагу,
Праз чад пагроз, праз голад і знявагу,
Праз дні і ночы ўпартасці і мук,
Праз лямант скону дзедаўскіх палосак,
Праз хціўны зман кулацкіх падгалоскаў,
Вялікай праўды—
Творцам стаў Янук!

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

... Янук узрушаны. Ён чуў сябе героем,
Ён шчасцю заваёванаму рад.
І нават весела сынучай мітульгою
Цярушыцца пажоўклы лістапад.

Янук узрушаны. Ён—рад свайму калгасу,
Работ цяжкіх прайшла гарачыня.
Не быць узрушаным і радасным і шчасным,
Не мае права—знатны старшыня!

Калгасным табарам пакошаны і зжаты
Квітнеючага лета ураджай.
Пачэсны кут займае ў светлых хатах
Заквашаная хлебная дзяжа.

А дзе-ж было яно, калі, ў якіх краінах,
Змардаванаму працай бедняку—
Каб дар зямлі быў хлебам без мякіны?
Каб восень скарбам слалася ў таку?

Вядуць абоз. Плыве разліў баяна...
— Шырэй вароты, ўдарнік-гаспадар!
І ў ветлых вокрыках таварыскай пашаны
Сваіх работ прымае плённы дар.

Штандары—золакам над хатаю ірдзеюць,
А чуткі-гутаркі лягендамі раслі.
Эх, чорта два! Такой яшчэ падзеі
Не ведала гісторыя зямлі!

Сказаў— гісторыя?
І з намі ёй зраўняцца?
А старцы-лірнікі, а старцы-дудары,
Як цудам здзіўлены: бы ў панскія палацы—
Калгаснай хаце звозяцца дары!

Янук узрушаны. Ён чуў сябе героем.
Ён шчасцю заваёванаму рад.
А як не ўзрадавацца? Упартасцю сваёю
У спісах гонару займае першы рад.

У грудзях—прыбой агня,
А ў вачах—трывога.
Асядлаў Янук каня,
Як струна—дарога.

Вецер клоніць строй прысад,
Свішча ў полі зжатым.
Едзе хлопец да дзяўчат,
Хлопец едзе ў сваты.

Адцвіталі тапалі
Беласнежным цветам.
Ехаць трэба, а калі,
Як не ў баб'е лета?

Покуль зладзіш добры лад
Справы гаспадарскай,
Ой, не ўспомніш пра дзяўчат,
Пра пяшчотнасць ласкі.

Дні і ночы напралёт
Бег работ вірлівы.
Гэй, давай паскорым ход,
Конь мой белагрывы.

У грудзях—прыбой агня,
А ў вачах—трывога.
Пад капытамі каня
Як струна—дарога.

Бывае так: ты думаеш адно,
Інакшае здараецца на справе:
Янук раздаў калгаснае зярно,
Янук даўно—падатак здаў дзяржаве,—

А тут... прыехаў—дзівіць сумятня,
Сабраны хлеб злачынцы замачылі.
Як птах падбіты, скача старшыня:
— Не ўпільнаваў... Нашкодзілі... Зглумілі.

Па вёсцы ходзяць бабы і бурчаць:
— У пуні хлеб, а ў хаце ні скарынкі!
Янук збіраўся, марыў пагуляць,
Янук чакаў вясёлай вечарынкі.

А гнеў людскі расплачаю крычаў.
Шукаюць ворага...
— А ў полі злові́ш вецер?

Ужо дамоў пастух скаціну гнаў.
Як цені, моўчкі сноўдаюцца дзеці.
Над лесам ззяў праменных горнаў круг,
Блакітны дзень стамлёны ў цьму нырцуе.

Мо' закурыць дасі,—пытаецца пастух.
Янук прыветліва махоркаю частуе.
Разгаварыліся. А ўжо згусціўся змрок.
— Бяда, браток, снуе па пятах голад.

Янук застыў.
Не ўздрыгне пільны зрок.
Янук задумлены,
Яму знаёмы голас.

І валам кроў у жылах загула.
Не можа быць?
— Ды гэта ён, бясспрэчна!
Пастух заёрзаў, звяў, стаў чорны, як смала,
Ад нежаданае раптоўнае сустрэчы.

— Я-ж чуў, што ты жывеш у Салаўках?
Глядзіш, спаткаліся... Прымай маю падзяку.
Я—твой пастух! Ты помніш Янука,
Якога збіў і выгнаў, як сабаку?

Табе я дзякую за горкай долі дні,
За здзек, за слёзы, сукін сын, за гора!
Як лоўка скуру воўчую змяніў,
Патомак ліха, звеку люты вораг.

Тваё шляхі, твае сляды ў крыві,
Дабру людзей ты шалам помсты шкодзіш.
Я—за руку цябе, раз'юшаны, зглавіў,
Прымай прысуд—народнай долі, злодзей!

Ты сапуном падкапваеш, што крот,
Падмурак росквіту сваім крывавым лычам.
Хадзем... пастух, убачыць хай народ
Тваё сапраўднае кулацкае аблічча.

Глядзіш у вочы мне, ты гнешся мне чалом?
А сілу даць табе, зальеш мне вочы воцтам.
Я—быў слуга, ты—быў гаспадаром,
Цяпер ты—золь, а я—змагар і творца!

Пяе ўрачыста восень перамог,
І гукі гімна льюцца ў свет здабыты!..

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Яны ідуць.
На суд...
Ідуць удвох—
Адзін усцешаны, другі ~~турой~~ спавіты.

## IV. НАША ВОСЕНЬ—НАША СЛАВА!

Песняй росквіту і славы,
Песняй мужнай, ваяўнічай,
Ходзіць сонечнаю явай
Наша восень—
Наш Кастрычнік!

А была ў няволі эданню,
Лятуценнем таямнічым:
Сёння ў вогнішчах змагання
Наша восень—
Наш Кастрычнік!

буйным коласам пшанічным

Дзе ~~імгліла~~ ~~твань~~ балотаў
~~Каласіцца сод~~ пшанічны.
Радасць ~~спелай~~ пазалоты
Наша восень—
Наш Кастрычнік!

Кліч Комуны шле народам—
Большэвіцкай пераклічкай
Новых фабрык і заводаў
Наша восень—
Наш Кастрычнік!

Ходзіць светам, ходзіць явай,
Шлях пад сонцам безгранічны,
Наша песня,
Наша слава,
Наша восень,—
Наш Кастрычнік!

Менск, 1933 г.

## І. У НОЧ ПЕРАД НОВЫМ ГОДАМ

Ціха стала. Ветрагулам
Завіруха прамінула.
Разварачывала, рвала
На кавалкі грозным валам
Яры шал навалы хмар.

Злосным лётала разбегам
І рассыпалася снегам.
І сумёты, быццам здані,
Быццам помнікі змагання,
След нязлічаных ахвяр.

Ветрарухам завіруха
Прамінула. Стала глуха.
Ў снегавых сваіх сяцілах
Шум лясоў запаланіла,
Пакарыла шум прысад.

Ледзянее шыр. Трывожыць
Цішыня і бездарожжа.
Ў заварожаным бязмежжы
Срэбралітыя мярэжы
Апаясваюць закат.

У сутоннай сіняй стыні,
Як на лыжах, па даліне,
Бег прасторным шляхам млечным
Непакорна-ўпарты вечар,
Ззяла зорная чалма.

Ускрылялася, вітала,
Сустракала карнавалам
Беласнежнае паводкі—
Сцяг другое пяцігодкі—
Большэвіцкая зіма!

## II. ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ДРУГОЙ ПЯЦІГОДКІ

Цемра ў нетры нор нырае,
Гоняць ветры змрочны цень.
Пераможцам наступае
Навагодні ўдарны дзень.

Ён ідзе... Ружовым ззяннем
Погляд свой—гаспадара—
Рассыпае ў акіяне
Ледзянога серабра.

Ён ідзе... Стырнуе ўздымна
Дзён бясклясавых вяшчун.
Грае будучыне гімны
Наш аркестр праменных струн.

Ён ідзе... Аб ім паданні
Дзіўным сказам творыць люд,
Загартоўвае змаганнем
Свой Кастрычніцкі маршрут!

* * *

А калісь—была лучына,
І жыццё—турэмны склеп.
Так было!.. Цяпер краіна—
Танкі, трактары і хлеб.

Там, дзе вырас Новы горад,
Дзе шуміць пшаніцай стэп,
Там Дняпро сваім напорам
Выпрацоўвае нам хлеб.

І шчаслівы ў працы дбайнай,
Край квітнее, край акрэп.
Ёсць—варштаты, ёсць—камбайны,
Ёсць—шасе, аўто і хлеб.

Людзі выраслі. Магутны
Росквіт родзіць рост патрэб.
Ёсць—рабфакі, інстытуты,
Ёсць—паэзія і хлеб.

* * *

І ад края і да края
Па аснежанае шыры
Ён ідзе. Яго вітаем
Шчырым сэрцам, думкай шчырай.

І няхай не чуў ён сёння
Пах бліноў у нашых сёлах.
І няхай маўчаў гармонік,
І ў вачах дыміўся сполах.

І няхай па нас страляли
Падкулачнікі праз шыбы!—
Мы—схаваны хлеб збіралі,
Хлеб кулацкае сялібы.

Новы год,
Свой горды ход,
Вёў на мужны штурм высот
Года першага—другой
Пяцігодкі баявой,
Большэвіцкай!

Пераможцам дзень грымот,
Сіл магутных разварот,
Новы год—
Разгортвай свой,
І ўступіў у грозны бой
Навальніцай!

Шмат дарогай перашкод,
Шчэ былых балюе аброд,
Новы год—
Сваёй хадой
Іх сатрэ ў пясок, на гной,
Як нястрэбу!

Бой ідзе, вялікі бой,
Бой астатні, злосны бой!
Барацьбой
Гартуй паход,
Сустракай,
Вітай,
Народ,—
Новы Год—
Хлебам!

## I. ПАТОМКІ ЧОРНЫХ ДЗЁН

Каб стрымаць, стрыножыць, збочыць
Ход,—якім не йшлі вякі —
Сапам змоў нянавісць точаць
Воўчай ноччу кулакі.

Недабітых іх багата,
Ой, занадта іх яшчэ.
Трэба сэрцам бачыць ката,
Пазнаваць агонь вачэй!

Здэцца ласкаў, не абразіць,
І абрэз не носіць свой,—
Спадцішка ў калгас пралэзіць,
Скот атручвае чумой.

Ен хітруецца па часе,
Глянь, маленькі ён, што крот.
Ен свінар. Таму ў калгасе
Ўвесь прыплод ідзе за плот.

І дарма, што збіты крыллі,
Помстай кроў гудзіць, як вар.
Ён ці мала знойдзе шчылін,
Каб глуміць народны скарб?

Поле білася-ж калоссем,
Хлебны быў зялёны шум.
Як жабрак, кулак галосіць,
Трэ слязу змяіных дум.

І зладзейскаю ганебнай
Жменяй ярасць гневу згрэб.
— „Трэба даць дзяржаве хлеба?“—
А таму—хавае хлеб.

А таму—на гной ссыпае,
А таму—ссыпае ў склеп.
Поле ўгнойваў для ураджая,
Каб згнаіць сабраны хлеб.

Хлеб стаіць у горле комам,
Грудзі роспач люта рве.
Хоць надломаны патомак
Чорных дзён—пакуль жыве.

І выходзіць ён, каб глянуць
(Варажылі-ж з года ў год!)
Быў бляды, ці быў румяны
Навагодні сонцаўсход?

Дый ці гнуцца долу вецці?
Як клубіцца дым з трубы?
Дый з якога боку вецер,—
Шэпчуць вусны варажбы.

А густой чырвонай лавай
Сонца ткала дываны.
Полем бег і вецер нават
З большэвіцкай стараны!

Шлях, аснежаны марозам,
Слаў бярозавы свой шэпт.
Шляхам стройныя абозы
Везлі наш калгасны хлеб.

Хлеб—будуе камяніцы,
Хлеб—імклівых дум агонь.
Хлеб—савецкія граніцы
Апранае горда ў бронь!
Будзем біцца—
За хлеб,
Большэвіцкі—
Наш хлеб.

## ПРАФЕСАР І СТЭНАГРАФІСТКА

Маленькі на выгляд,
А шустры,
Пранырлівы
І далікатны.
Муштруецца ён перад люстрам,
Шукаючы позы выдатнай,
Простае, баявое—
З практыкі класавых боек.

Муштруецца блізка дэкаду
(У кропку не лёгка патрапіць!)
Праблема яго дакладу
„Нацпытанне—
на новым этапе".

Выступаць яму—
Не прывыкаць,
На тысячы тэм, без муштроўкі,
З афарбоўкаю меншавіка,
Ці з іншаю афарбоўкай,
Ў залежнасці—ад пары,
Ад нагоды і забеспячэння.
Скуль сёння павеюць вятры—
З тых бакоў і яго выступленне

Хустачкай люстра працёр
І ў габінет невялікі
Стэнаграфістку паклікаў
На генеральны паўтор.

Дзяўчына—барвовай вясёлкай
Бадзёрасць румянцамі лье.
— Вы комсамолка?
— Але. *(Пауза.)*
— Вы стомленая?
— Не бяда.
— І так:

— Шаноўная грамада!
Спачатку, я хочу прасіць,
Дазвольце мне шчыра, аддана,
І ў шчасці вітаць усіх
З перамогаю доўгажаданай.

Я горка пакрыўджаны быў,
Кастрычнік душа не прымала,
Бо ў дзікім агні барацьбы
Шчодрасць у вас панавала.

Не дрэнна. Цара вы прагналі.
Вітаю. Стварылі урад.
Аднак, што Расію парвалі,
Карысці ў гэтым, наўрад.

Наадварот. Рэволюцыі
Болей клопатаў і прытым
У адным мяшку не ўжывуцца,
Пагрызуцца два каты.

Беларусь—гэта штучнае слова,
І не ўласнае, вось што важна.
І ўся беларуская мова—
Прадукт міжнароднай пакражы.

Паслухайце, слова „страна"
Па-іхнаму значыць „краіна".
А ўласнае гэта?—Мана,
Без адной літары „Украіна".

Ці слова хаця-б „гаспадар",
Неяк жах разбірацца цяпер—
Белагвардзейскае „гаспада"
З пролетарскім канчаткам „р".

Я доўга даследваў і дзе там
Шавіністы такія, што жах:
Шмат у каго партбілеты—
А сарочкі ў васільках!

І галоўнае ў дні пяцігодкі
Васілёчкі—нікчэмны сарняк—
Вышываюць на касавароткі
І старыя, і маладняк.

Вы падумайце толькі—куды
Дакаціцца яны прыгодны.
Дзе песні я чуў—заўжды
Мелодыі песень народных.

Таму вось...
— Таварыш прафесар,
Калі ласка, вазьміце вады.
Вы хворы... Вы...

Здзіўлены прафесар:
— Прычым тут „вазьміце вады?"
І чаго яна—гэтак бурна
Стэнаграмай махнула, пайшла?

І стаў ён адразу пануры,
Падскочыла тэмпература,
І ліхаманка прыплыла.

Ён стрывожаны думкай гарэзнай:
Няўжо небяспечныя тэзы
Ў даклад кантрабандаю лезуць?

. . . . . . . . . . . . .

Тэлефанілі ў дэканат:
— Прафесар хварэе. Прасіў
Адмяніць даклад.
Што-што?
... Мерсі.

1932 г.

# БЛАТ

Няхай невялічкі пакой,
А думкам — прастор і развой.
Жыве тут заслужаны спец:
На працы — як верацяніца,
На працы — снуе, мітусіцца.
А прыдзе дадому — канец
Спаборніцтву
                    І будаўніцтву.
Не любіць ён вока людское,
Акно закрывае краймой,
І пахам травы барвой
Стамлёныя грудзі напоіць.
Прыляжа. А ціха вакол,
За шыбінай ззяе вясёлка...

— Калі ў галаве тваёй толк
Жывецца па густу і толкам.
Галоўнае дружба, а ёй—
Заўсёды ўсе дзверы адкрыты:
Для Ціга дастанеш пакой,
А ў Ціта цвікі для Мікіты.
Мікіта дасць некалькі тон
Цэменту, з падзякай, Івану.
Іван у адзпаку—загон
Адгрузіць пшаніцы Сцяпану.
І круціцца так карусель,
І круціцца без перабояў;
І людзі здаволены мною,
І мне прыпадае рубель.
Няхай невялічкі пакой,
А думкам—прастор і развой.
І воку чужому і вуху
Не ўбачыць тут і не падслухаць!
А думкі плылі і плылі,
Праз дымныя хвалі, кругамі:
— Ідзеш і стыкнешся часамі
На камень, на роўнай зямлі.
Трымай сябе моцна ў руках,
Будзь пільным і чулым заўсёды.
Жыццё як зняволены птах,
Жыццё гэта—краты і годы.
Што жменяй уласнаю згроб...
Тваё, карыстайся, як хочаш!..

І зморшчыў абветраны лоб,
І бровы насупіў на вочы.
Уздрогнуў... Як быццам з засады,
Прарвалася крыўда з грудзей...
Ён глянуў навокал і рады:
У пакоі інтымны парадак,
Гарыць на партрэтах алей...

## II

Цярушыцца сцежкай імглістай
Сутоннага змроку парча.
Ён слухаў рапсодыю Ліста
(Па радыё чуў скрыпача).

Струна паланіла гуканнем,
Будзіла жывая струна—
Пачуцці вясны і кахання,
Пачуцці агню і віна,

І страх за жыццё абуджала
І ў сэрцы трывогай расла.
Якраз як сумысле, як знала,
Чарнявая Галка ўвайшла.

І Галка здзівілася:—Злосны?
У вачах быццам пацеркі слёз?..
А гукі ліліся дзівосна,
Напэўна іграў віртуоз.

— Што сталася? Можа не рады?
Магу і пайсці...—Пачакай,
Бывае... Мелодыі-звады
Расчулілі... Выбачай!..

— Дзівак... А прыйшла я з навінай!
— Расказвай, ўсяму буду рад!
— Эх, любы, на бочку бензіну
Дастала табе я нарад.

Але заадно абяцала
Пяць скрынак аконнага шкла.
А скрыпка няспынна спявала,
А ў сэрцы трывога расла.

Як веерам, вязаным шарфам
Зрабіла прывычны свой жэст:
Ён тут-жа ёй, з кніжнае шафы,
Дастаў крэп-дэ-шыну адрэз.

І ў мяккай канапе абое,
Захопленыя скрыпачом,
Звілі рамантычным настроем
Агонь свае дружбы—вянком.

III

І сніцца яму, так празрыста,
Што ўжо ён інакшы зусім,
Што ён у тэатры артыстам,
Хоць цяжка, хоць шлях і цярністы,
Усё-ж компас кіруе на ўздым!

Таму кантрамарку й другому,
А трэцяму цукру прыдбаў,
Чацвертаму лаку і хрому—
І стаў ён артыстам вядомым,
Ён славай мастацкаю стаў.

Ён стаў тэатральнаю зоркай,
Героем дзяўчат і пяшчот. .
Часамі ён чуе гаворку,
Што часта пустуе галёрка,
— А ў партэры—што, не народ?

Вось Галка з падругай у ложы,
Падруга прышла з жаніхом
(Без цёшчы жаніх быць не можа!).
Вось гэтак і партэр заложан
І зложан авацыі гром.

Як блескам зара на расцвеце,
Палоніць актор-самацвет!..
— Эх, вецер завёўся ў бюджэце!..
Не важна, а ў Наркомасвеце
Навошта сумуе бюджэт?

Галоўнае—ўвёрстывай ролю,
На заўтра—ў газеце кліша.
Тады, як шалёнаму поля,
Хапае і хлеба і солі,
І славай набіта кішэнь.

А ўсю-ж тэатральную драму
Яму сапсаваў паштальён:
Чар·овы запрос-тэлеграма...
А гэткі чаруючы сон!
О, больш не паўторыцца ён!
І глянуў на тэкст тэлеграмы:
*Бяру тэрмінова дынамо.*
*Даю канаплю. Сымон.*

IV

Чаромухай праменні
Цвітуць каля акна.
На крыллях лятуценняў
Прабеглі ўзвеі сна.

А сон быў гэткі дзіўны,
Нязбыўных дум вянок.
Прайшло. І смокча хціўны
Пад сэрцам чарвячок.

Устаў. Акінуў вокам—
Няма і Галкі ўжо.
Ён уздыхнуў глыбока
І глянуў на ружжо.

Але-ж яно ніколі
Не выстраліць само.
Ўстрывожаны да болі,
Ён стаў каля трумо.

Капрызы туалета
Яго ўзялі ў палон.
Якраз прынёс газету
З прыветам паштальён.

Перагарнуў старонкі
І ўголас прачытаў:
— Няма ў нас песень звонкіх,
Каб наш народ спяваў.

— Вучоным і паэтам
Ад моладзі пісьмо...
Заёрзаў, змяў газету,
Зноў стаў каля трумо.

А думкі смелым лётам
Крыляцца, як арлы.
— На песнях заработак
Заўсёды не малы.

Ён доўга задумённы
Углядаўся ў свой партрэт.
— Відаць лягчэй вучоным,
Які з мяне паэт!

Уплесці ў рыфму слова
Няма страшнейшых мук!
Навошта-ж мне спілоўваць
Яшчэ жывучы сук!

Прыдбаўшы двух знаёмых
Праз некалькі гадзін—
Я стану і вучоны
І навуковы чын.

О, чэк акадэмічны,
Агалашу трактат:
— Праблема песні зычнай
На будаўнічы лад!

І гэта будзе лоўка,
І нават навіной,
Бо там самастрахоўка
З парукай кругавой.

Бо там трасуцца жылкі
І вочы там крычаць:
— Каб не зрабіць памылкі,
Лепш мудра памаўчаць.

А я героем буду,
Бо я даклад зраблю.
І блат народзіць цуда,
А цуда я люблю.

Дый раптам стук у дзверы,
Ён задрыжэў, як ліст...
Блацёра вокам змерыў
Таварыш мой, чэкіст.

Прасіў не хвалявацца,
Накінуць паліто.
А праз хвілін дванаццаць
Іх вёз ужо аўто...

Свежань 1934 г.

## ВАЎЧАНЁ ПАКІДАЕ НАРУ...

I

Як на выспе, адзінока,
Як дзікун краін далёкіх,
Рос на хутары ў зацішку
Сінявокі хлопчык Грышка.
Як выгнаннік, на адхоне,
У бярозавым палоне,
Без сяброў, без аднагодкаў,
Так трынаццатае лета
Рос куртатым, здэцца—ледзь
Непрыручаны мядзведзь.

Цішыня і глуш вакол...
Лес—высокі частакол—
Дзікай зараслю закуты,
Вартаваў кулацкі хутар.

Зрэдку зойдзе хто знаёмы,
Грышка моўчкі, стараною
Слухаў пільна свежы гоман
Пра жыццё-быццё людское.
А часцей за ўсё заходзіць
З гушчы лесу, быццам злодзей,
Госцем злосным, нежаданым,
У бярлогу хутаранаў
Быстраногі шэры воўк.
І тады—у двары трывога,
Крык гарэзны ў лес-дарогу
Мчыцца ўслед за быстраногім.
Неўзабаве сціхне зноў.
Зноў самотны Грышка гляне,
І, як сэрца хто параніў,
Лес маўчаў, маўчаць палі,
Толькі пчолы на паляне
Роем лёталі, гулі.

II

Ёсць у Грышкі і сястрыца
Маладзіца-Палавіца,
Недаступная такая,

Усюды нос яна ўтыкае:
— Тут не добра, дрэнна там,
Дапякае батракам.
А парою з батракамі
Проста грызлася зубамі.

Да яе прыходзіў клер,
Выкшталцоны кавалер.
Вечна шэпчуцца, хітруюць,
Штось змаўляюцца, цікуюць.
Не па сэрцу Грышку гэта—
Ўсё сакрэт, усё сакрэты,
Нехта, нейдзе, нешта, неяк,
Шыта-крыта, як зладзеі.
Грышка з ёй, ля года скора,
А ні слова не гавора.
І цікавасці ніякай,
А ні кроплі, а ні знаку.

III

Падружыць яму ўдалося
З батраком—байкарам Лосем.
З ім праседжваў вечары.
Лось—мастак пагаварыць,
І заманліва! Пры гэтым
Бачыў ён не мала свету.
За свае дзесяткі год
Перажыў ён шмат прыгод.

І калі папросіць Грышка
Расказаць што-небудзь, крышку,
Лось закурвае, міргне
І звычайна так пачне:
— Быццам дудкай-самаграйкай
Я цябе пацешу байкай,—

За марамі, там дзе горы,
За гарамі, дзе азёры,
За азёрамі,
Пад сонцам,
У закінутай старонцы
Ёсць гара.
На той гары,
У дубовым гушчары,
Жыў спакойна ўвесь свой век—
Невядомы чалавек.
Жыў багатым жываглотам,
Працаваць не меў ахвоты.
Ад зары і да зары—
Знемагалі за работай,
Пад крывавым горкім потам,
Толькі птушкі і звяры.
Сам не сеяў, ні араў,
Ледзь нагой пераступаў.
А ўсяго яму ставала—
Хлеба, солі, круп і сала.
Свінні дзікія аралі,

Галкі ўслед баранавалі,
Бусел сеяў, нават козы
Дзёрлі лыка з вербалозаў,
А мядзведзь каля кустоў
З тога лыку лапці плёў.
Як засцеліць завіруха
Шлях-дарогу белым пухам
Ці на захад, ці на ўсход,
Сабіраецца ў паход
Зверадавец-гаспадар
Прадаваць дабро-тавар.
Двор гудзіць перапалохам,
Усцілалі санкі мохам,
Кожны лётаў, ахаў, охаў—
Суматоха, суматоха...
Загудзеў мядзведзь у рог,
Што ласёў ужо запрог.
Гусі-лебедзі вароты
Адчыняюць жываглоту.
Дзятлы б'юць у барабан:
— Едзе,
Едзе,
Едзе—
Пан!
Вераб'і іграюць марш:
— Едзе,
Едзе—
На кірмаш!..

Пан сядзіць і ў вус не дуе,
Едзе ноч—адну, другую,
Бэз канца, без перастанку,
Колькі сілы, цягнуць санкі—
Цераз пушчы, цераз горы,
Праз даліны, праз азёры,
Без дарогі, без шляхоў
Адзінаццаць пар ласёў.
А з бакоў бягуць ваўкі,
Як стральцы-вартаўнікі.
Караван стралой імчыцца,
Хмарай снежны пыл віхрыцца.
Пану—мала,
Ой, як мала,
Гоніць ход,
Страшэнны ход!
Зло ў ласёў забушавала,
Гневам кроў забунтавала:
— Эх, трымайся,
Жываглот!
Як рванулі, тузанулі,
Санкі ў бок перавярнулі,
Пан кручком перакуліўся
І, як бочка, пакаціўся
З горкі—
Уніз,
Уніз,
Уніз...

Пана снегам заваліла.
Курганом расла магіла.
— Будзе помніць, будзе знаць,
Як чужую кроў смактаць!
А ласі з ваўкамі ходу—
Ў лес!
На волю!
На свабоду!

IV

Скончыў байку.
Перадышка.
А здаволены быў Грышка,
Грышка ўсцешан,
Грышка рад:
Скача,
Быццам акрабат.
А бывае, як пачуе,
Што паны яшчэ шалеюць,
Грышка змоўкне, засумуе...
Лось тады журбу развее,
Прытуліўшы, скажа ласкай,
Як сыночку,
Як падпаску:
— Шмат чаго не разумееш,
А пара хоць трошкі ўмець,
Дзе ты, хто ты—разумець.

* * *

Што старэнькі Лось папросіць,
Грышка хутка зробіць Лосю.
Бацька—хай злуе, крычыць,
Грышка ўсё перацярпіць.
Раз хто просіць, гэта Лось быў,
Грышка выканае просьбы!

## V

З бацькам ён даўно не ладзіць.
А хто ў памяці загладзіць
Гэткі сорам, ганьбу.., Эх,
Грышку гора, хлопцам смех!
Справа ў тым: гурбой вясёлай
Дзетвара снуе ля школы.
Важны ў школе мітынг-сход:
Піша школьнікам завод,
Просіць школьнікаў завод,
Каб наладзілі паход
Баявым сваім гуртом
Сабіраць жалезны лом.

— Каля кожнай хаты, дому
Колькі хочаш таго лому.
Так што шмат не гаварылі,
А да справы прыступілі.

Раз патрэбен лом заводу,
Значыць згода!
Згода! Згода!

Грышка доўга і не думаў,
Ведаў, што й ля іхняй хаты
Ад вайны яшчэ багата
Ёсць раскіданага глуму.
Так з брыгадай ён ля саду
Стаў складаць сабраны лом.
Бацька ўгледзеў і... калом
Прэч прагнаў з двара брыгаду.
Хто куды-каторы збег.
Грышку крыўдна,
Хлопцам смех!

І смяяліся заўсёды,
Што зімою нават лёду
Гад-кулак пашкадаваў.
Смех за Грышкам бег па пятках,
Грышка гыркаўся спачатку,
Потым моўчкі абмінаў.

Ён цярпець не ў сілах болей—
Раз'ядае раны соль.
Ён, як той чужак, у школе,
Ён і ў бацькі, што ў няволі,
Хто-ж суняць здалее боль?

## VI

Змрок гусцеў... Сышліся ў хату
Батракі і просяць плату.
А звычайна, хто багаты,
Батраку пачне круціць,
Каб, як можна, менш плаціць.
      Лось цярпеў,
Цярпеў нямала—
Грудзі гнеўна злосць нрарвала.
Ён крычаў:
— Мы льем свой пот,
Каб табе нарос жывот?
Мы тваёй—не хочам лыжкі,
Мы ў цябе—не просім лішкі,
А сваё—што мы ўтрудзілі,
Нам давай!
— Мы зарабілі!

Не ўцярпеў ад крыўды Грышка,
З бацькам яра стаў спрачацца,
Бацька з Грышкі стаў смяяцца.
Грышка тут-жа, ўсё як след,
Напісаў у сельсовет.
Скупа слоў,
А гнеў багаты:
      Што ягоны родны тата
      Не плаціў даўно падатак,

Што таіў зямлю, скаціну,
Гаспадарчыя машыны,
Што глядзеў заўсёды гадам
На совецкую уладу.

А на заўтра, ледзь світала,
Грышкі ў хаце ўжо не стала.

Дзе не быў-бы Грышкаў тата,
Лаяў Грышку, кляў зацята.

Гаварыў на ўсю акругу:
— Грышка будзе валацугай.

Гаварыў, як звер, сярдзіта:
— Грышка зробіцца бандытам.

* * *

А ці стане шкодным Грышка—
Нам раскажа гэта кніжка.

## АДКУЛЬ І КУДЫ НА ДАРОЗЕ СЛЯДЫ

Грышка смела ўперад крочыць
Цераз рытвіны і кочкі,
Шлях балоцісты, сыры,
Крочыць Грышка, як стары.
Торбу ўспёр на паясніцу,
Закасаў ён нагавіцы,
Ў рукі ўзяў сукаты кій,
Як і ўсе вандраўнікі.

Хоць яму трынаццаць год,
Смелы выбраў ён паход:
Стаць сумленным чалавекам
І без бацькавай апекі.

II

Сонца ўзнялася высока,
Пачынае мучыць спёка,
Смага точыць і—бяда!
Ёсць, ды брудная вада.
Грышка ўзгорак бачыць справа,
Павярнуў туды рухава.
Пад узгоркам, як на шчасце,
Давяло яму напасці
Сярод зараслі балот
На крыніцу-быстраход.
— Эх, крынічка, піць хачу,
Дай напіцца ўцекачу!
　　　　Ї крынічка напаіла,
Хлопцу сілы аднавіла.
І шумліва льецца стужкай,
А над ёй крыляцца птушкі.
Грышка здзіўлен:
— Колькі дзічы,
Эх, каб я быў паляўнічы!

З'еў кавалак хлеба з салам,
Каб пад сэрцам не смактала.
А затым на горку ўзлез,
Недалёка ўбачыў лес.
А з-за лесу лезуць хмары,
І не дзіва, гэтак парыць.

Уцякае ўсё жывое,
У норы, ў ямы з неспакоем.
Вецер долу гне кусты,
Хмары, быццам дым густы.
Гром ударыў, Грышка ўздрогнуў
І зямля ад грому стогне.
Дождж, нібы з вядра, лінуў,
Грышка скокнуў пад сасну
І сядзеў, як баравік,
Покуль буры крык не знік.

III

Сціхла бура. У цёмным лесе
Колькі звону,
Колькі песень,
Колькі радаснага руху!
Хто-ж не згодзіцца паслухаць?
Грышка ўстаў...
Адна-ж уцеха—
Белкі шчоўкаюць арэхі,
Вышла ў лес гуляць лісічка,
Чутна дзятлаў пераклічка.
Дружна скачуць звераняты:
Зайцы, козы, ваўчаняты,
Хоць і цяжка,
А ледзь-ледзь
Скача з імі і мядзведзь.

* * *

Нельга ўсё-ж сядзець безмеры,
Час пасоўвацца наперад.
Сонца коціцца на захад.
Грышка знаць не знае жаху:
Вышаў з лесу, ўзяў напрамак
І пайшоў праз лужы, ямы.

Тут успомніў ён цяпер
Верш, пад назвай „Піонер“,
І, каб смутак свой развеяць,
Верш чытае сам сабе ён:
„Падрасту і ў комсамоле
Папрацую, яшчэ як!
Палюбіў я ў нашай школе
Комсамольскі маладняк.
Ёсць-жа хлопцы, як вароны,
То на плошчу, то на сквер.
А мне гальштук дай чырвоны—
Буду добры піонер!“

Змрок павіс густой завесай,
Не відаць сяліб з-за лесу.
Лепш было-б да сонцаўсходу
Быць сярод людзей, народу.
Але, што-ж, калі няма—
Хай прытуліць лес і цьма.

Каля вольхі, ў пухкі мох,
Грышка зморaны прылёг.
Скурчыў ногі абручом
І заснуў салодкім сном.

# ВУЧОНЫ САБАКА

## I

Чуе Грышка, нехта будзіць,
Трасучы яго за грудзі.
І, праз сон, як загалосіць:
Бацька тут—яму здалося.

— Уставай, чаго гарланіш?
Ружавела ўжо світанне...
Праз галіны росных ёлак
Сонцу шлях цярэбіў золак.

— Уставай хутчэй, бяздомак!

Грышка глянуў—незнаёмы
Перад ім стаіць армеец.
— Скуль, хлапчук, чаго гібееш?
— Я ўцякач... Ад бацькі... У горад...
Хутар Ліпы... Блізка Горак...
— У-ця-кач?! Такая справа,
Што за мной ідзі ў заставу.
Я цябе ў заставе здам там,
Пагаворыш з камендантам.

І пайшлі... На ізгатоўку
Ўзяў патруль сваю вінтоўку.
Грышка звяў, стаў белы-белы,
Ўсё-ж спытаўся, хоць не смела:
— А якая гэта справа,
Што вядзеш мяне ў заставу?
— Як-жа так, дзе ты ляжаў,
Там якраз ідзе мяжа.
Бачыш, вунь, сядзібу тую?
Там яшчэ жывуць буржуі!

Хутка вышлі на паляну,
Грышка, стомлены зусім,
Зноў у бок граніцы глянуў,
Як на злосць, і муць туману
Слепіць вочы, быццам дым.

## II

„Што тут вышла, што такое?—
Думаў Грышка з неспакоем,—
Што начальніку скажу,
Як папаў я на мяжу?"
Доўга думаў і рашыў:
„Справа ў тым, што заблудзіў,
І нічога мне не будзе,
Мала хто бывае блудзіць?"

Больш за ўсё ў яго трывога—
Да бацькоў адвесці могуць.
Бацька, ведама, кулак—
Добра дасца Грышку ў знак.

## III

Начзаставы глянуў пільна,
Слухаць Грышку стаў прыхільна,
А расказваць Грышка можа—
Шчыра, горача, прыгожа:
— Так што з бацькам не ў ладох
Год прыблізна каля трох.
Кожны раз збярэ ўраджаі,
У яму ссыпе, захавае,
Стогне, скардзіцца штодзенна,
Што яму жывецца дрэнна.
Не сцярпеў я і знарок
Ад такога бацькі ўцёк.

На хлапца начальнік глянуў
Вокам вострым,
Гартаваным,
І падумаў:
„Вось дык справа,
Гэта-ж нават і цікава,
Каб падростак-кулачок,
І абмыты, і абуты,
Як ад здзеку, ад пакуты,
Ад бацькоў сваіх уцёк...
Што-ж такога, хоць і рэдка,
Можа быць выпадак гэткі,
Ён уздыбіцца
Як вецер,
І пакоціцца,
Як гром:
Слава дзецям!
  Слава дзецям!

— Як-жа быць з уцекачом?“

Ёсць адвечны сказ народа:
Цягне ў лес ваўка заўсёды.
А калі на спробу ўзяць?
Мо', прайшоўшы нашым ходам,
Сам ваўкоў пачне знішчаць?..

Грышка ловіць, ловіць жвава
Зрок начальніка заставы.

Сэрца б'еццa палахліва
І чакае нецярпліва:
„Што ён скажа, як асудзіць?
Што тут будзе?.. Што тут будзе?"

## IV

Вышла гэтак: неўзабаве
Начзаставы сеў на лаве
З Грышкам, як арыштаваным,
І сказаў:
— Відаць, адданы,
Што тут доўга гаварыць,
Хочаш разам з намі жыць?

Заблішчэлі ў Грышкі вочы
І крычаць: „Ён хоча, хоча!
Шчыра дзякуй, шчыра дзякуй,
Будзе ўпорысты ваяка!"

— Вось і ўсё. А на бацькоў,
Як і іншых кулакоў,
Выйдуць з сілаю другою
Ў наступленне баявое.
Бачу я, што ты здаволен
Жыць, вучыцца ў нашай школе.
Пойдзем, я аддам загад,

Адвязуць цябе ў атрад,
Школа там і інтэрнат,
Разам з школьнікамі, браце,
Будзеш жыць у інтэрнаце.

Грышка рад і не рад.
Што такое інтэрнат?
Што рабіць са мной там будуць?
Зноў цярпець бяду-маруду?
Вось дык гора,
Вось дык гора!
Адпусціў-бы лепш у горад,
Працы там заўсёды шмат.
Не хачу я жыць у кратах,
Што мне тыя інтэрнаты,
Я ўцякаў не ў інтэрнат!
Я даўно імкнуся ў горад,
І... няхай пад градам куль,
Горад, горад!
Любы горад,
Я ўцяку,
Ўцяку адсюль!
Думкі ходарам хадзілі,
Не асмеліўся-ж сказаць,
Каб у горад адпусцілі,
А рашыў,—каб не скарылі,
Як на крыллях, уцякаць!

V

Шлях праверыў пільным вокам,
Непрыкметна,
Бокам бокам,
Даў, як заяц, ла-та-ты
Праз дарогу—
І... ў кусты.

Каб не збіцца,
Не зблудзіцца,
Не папасці за граніцу,
Стаў, зірнуў на небакрай,
—давай,
Давай,
Давай!
Бег, што сілы, голле хрушчыць,
Хруст гудзіць лясною гушчай.
Раптам выскачыў з кустоў
І да Грышкі падбягае
І на Грышку нападае
Востразубы шэры воўк.

Грышка струсіў, здаў, заплакаў,
Хоць напаў зусім не воўк,
А вучоны зух-сабака
Пагранічнікаў-байцоў.

Падышоў патруль, адразу
Папытаў:—Куды, адкуль?
Грышка блытана расказваў.
„Штось хітрыць,“—рашыў патруль.

Грышка ўвесь збялеў і нават
Не паспеў абцёрці слёз—
Зноў вядуць яго ў заставу,
Як злачынца, на дапрос.

## КОМУНІЗМ—ЗМЯЦЕ ГРАНІЦЫ

I

Як ніколі, ціха стала...
Апусціўшы галаву,
Цень сваю сасна кідала
На шаўковую траву.

Звонкіх птушак шум крылаты
У кусты пакорна ўцёк:
Пад страхой зялёнай хаты
І не страшны сонцапёк!

Кветкі стомленыя вянуць,
Долу гнуцца каласы.
Шыр малінавай паляны
Просіць срэбнае расы...

Шмат няпуганае дзічы
Моўчкі ўецца ля крыніц...
Цішыня на пагранiччы,
Баявы спакой граніц.

Грышка хмуры сеў на ўзлессі,
Галаву сваю павесіў
Ад тугі, журбы і дум.
Птушак многа ў звонкім лесе,
Хоць адной-бы дружнай песняй
Разагналі ў Грышкі сум!

Грышка думаў, доўга думаў,
Ён баяўся кпін і глуму:
Хто не ўчуе пра пабег,
Узнімаць пачне на смех.
А найбольшай сілы гора—
Адчуваць пракляты сорам!

II

Сонца галай адступала
За лясы, за горы, скалы.

Наліваўся стаў закат,
Як вішнёвым сокам сад.

Грышка ўстаў. Хоць і стамлёны,
Ён падаўся ў бок кардона.

Уявіў сабе, што ён
Сцерагчы ідзе кардон.
Што за поле, што за шлях там,
Дзе яшчэ пануе шляхта?
Выглядае падазрона:
„Мо' крадуцца дзе шпіёны?"

Арку ўбачыў недалёка,
Падышоў, прыжмурыў вока,
І чытае, і дзівіцца:

*Комунізм—*
*знясе граніцы.*

А то-ж праўда, слуп і дрот
Працавіты наш народ
Падзяляе, што за дзіва,
На нявольных і шчаслівых...

III

Ідучы назад, ля ціра
Ён спаткаўся з камандзірам.
Селі ўдвух яны на ўзгорку,
Завязалася гаворка.
Грышка разам з камандзірам
Гаварылі доўга, шчыра:
— Ты малы, а ведаць мусіш,

Што ў Заходняй Беларусі
Беларускія жандары
З польскім разам гаспадараць.
Што не так, як трэба пану,
Значыць — ты арыштаваны.
Гаварыць там нашай мовай
Забаронена сурова.
Там і здзек, і катаванні
Над нявольнымі братамі.
Хто-ж устане супроць катаў —
Гіне ў турмах-казематах.

Слухаў Грышка,
Слухаў моўчкі,
Блескам дзіва зззялі вочкі.
А калі адзін астаўся,
Помста ў сэрцы завілася,
І рашыў ён гэтай ноччу
Блізкі шляхціча фальварак
Зруйнаваць агнём-пажарам.
„Падпалю і перад светам
Назаўсёды давяду,
Што не йду супроць Советаў,
А супроць паноў іду!

Непрыкметна вышаў з дому,
Ўзяў з сабою сноп саломы,
Ўзяў сярнічкі і... ціхком
Бег спаліць шляхецкі дом.

— Хто такі? На месцы стой!
— Гэта я, таварыш. Свой!
— Што ляціш так віраломам,
І нашто з сабой салома?

Грышка белы стаў, як снег.
— Што-ж маўчыш? Куды ты бег?
Гаварыць? А хто дасць веры,
Што з найлепшым бег намерам?
Зноў няўдача...
Амба, крышка!
Сноп пасыпаўся з падмышкі.
Застывала ў жылах кроў,
Як вялі ў заставу зноў.

А ў заставе злосна крышку
Павялі размову з Грышкам:
— Мы-ж цябе тут прытулілі,
За свайго цябе лічылі,
Як-жа так?
— Зусім не гэтак!
Я не йшоў супроць Саветаў.
З поўвярсты, па той бок аркі,
Ёсць два панскія фальваркі,
Іх хацеў я падпаліць,
Каб лягчэй было там жыць,
Каб не знацца з бізуном
Нашым змучаным братом!

— Мalады яшчэ, зялёны
А таму з такім разгонам
Бег, каб глупства нарабіць?
Ой, як трэба вас вучыць.
Падпаліць адзін фальварак
І гатова? Гэта мары,
Гэта толькі лятуценне,
А не бой за вызваленне.
Згуртаваўшы сілы разам,
Трэба ўсім паўстаць адразу.
І тады ўжо скінуць з карку
Ўсе маёнткі, ўсе фальваркі,
Паскідаць у жар вагранкі
Ўсіх паноў і ўсіх поўпанкаў!

IV

Вышаў Грышка як пабіты,
Чуў сябе несамавіта.
Дуты, злосны, чырванее:
„Я ніяк не разумею,—
Ці-ж палякаў біць не можна?
Нашых ворагаў?
Не можна?
Што такое?..“
Лёг на ложак,
Злосць кіпіць, дасада, сорам.

А ляжаў ля Грышкі поруч
Гэтак сама камандзір,
Пагранічнік Казімір.
Не сцярпеў, не мог стрываць,
Каб змаўчаць, не расказаць:
— Меркаваў дабро зрабіць,
Пачалі-ж смяяцца, кпіць.
Думаў, будзе мне падзяка,
Што пайшоў супроць палякаў,—
Так ад сэрца Грышка шчыра
Прызнаваўся Казіміру.

— Бачыш, справа ў нас такая,
Падрасцеш, дык сам пазнаеш,
У палякаў ёсць паны
І ў беларусаў ёсць яны,
А найбольш, калі знаць хочаш,
Ёсць і там, і там рабочых.
А рабочыя з панамі
Век не могуць быць братамі.
Зараз Польшча ў завірусе,
І ў Заходняй Беларусі
Нарастае бура, гром—
Смерць раз'юшаным паном.
Думаў ты спаткаць падзяку,
Што пайшоў супроць палякаў?
Я —паляк, чырвонаармеец,
І чым горшы за цябе я?

Ну, падумай, дружа-браце,
Я твой вораг ці прыяцель?

Грышка змоўк. А гэтак жвава
Беглі думкі. Ён здзіўлёны:
„Што такое? Ў чым тут справа?
Біць палякаў—забарона?
Дык нашто стаіць застава?
Што такое? Ў чым тут справа?..“

## ТУРЭЦКАЯ ТРУБКА

### I

Дзе ні станеш,
Дзе ні глянеш—
Вырастаюць рыштаванні.

Вось гатовы
Пабудовай
Новы дом
Шматпавярховы.
Ў гэтым доме—камбінат:
Тут і сад для акцябрат,
Тут і школа,
З імі тут
І тэхнічны інстытут.

А на тым баку дарогі
Велікан-завод гудзіць.
І заўсёды, без трывогі,
Пад штандарам перамогі
Мы жывем і будзем жыць!

Толькі рань зайграе зычна,
Як дудой, гудком фабрычным,
Выйдуць з хат адным заходам
І бацькі, і дзетвара;
І зліецца гул завода
З гулам школьнага двара.

Праца там, і праца тут,
Там і тут адзін маршрут.
Шлях адзін, адны імкненні
Трох вялікіх пакаленняў:
Горда, смела і няспынна
Будаваць сваю краіну!

Вораг вочы хітра жмурыць,
Злую ён рыхтуе буру,
Падрыхтоўвае напад.
Ён штодня, шалёна гэтак,
Шчэрыць зубы на Советы,
На совецкі грозны лад.

Мы сябе ўладарна чуем,
Край будуем,
Моц гартуем,
Бо ў мароз і ў навальніцу
Большэвіцкія граніцы
Злым набегам стан варожы
Урасплох застаць не зможа.
А спрабуюць—
Будзем біцца,—
Ой, завые пан жалобай!..

Хай жыве спакой граніцы
І спакойная вучоба!

II

—Дзе-ж ён, Грышка светлабровы?—
У мяне спытаць гатовы.
Адкажу абавязкова:
— Светлабровы хлопец Грышка
Стаў найлепшым другам кніжкі,
Ён змяніўся, як ніколі.
Лепшым вучнем стаў у школе,
Нават сінь яго вачэй
Заіскрылася ярчэй.

А зіма ўжо наступала,
Горад снегам засцілала,
Бушавала дзетвара.

Завіруха не сціхала,
І, на славу, вырастала
Беласнежная гара.

Ажывіўся двор ля школы
Працай дружнай і вясёлай.
З снегу мучацца, майструюць,
Лепяць чучала буржуя.
І раскатам злых насмешак,
Як гранаты, свішчуць снежкі.
Адлятае нос і вуха,
Бараду загналі ў бруха,
Грышка метка, стаўшы з боку,
Збіў цыліндр і манокль.
Раскрышылі, расстралялі,
Перацёрлі на пясок.
Грышка рад, бо ўсе прызналі,
Што найлепшы ён стралок.

III

Час праходзіў скора, скора...
Грышка ў школе быў бадзёрым,
Дзіч сваю перамагаў.
Толькі горад, любы горад,
Рух яго, яго прасторы—
Грышка штось не ўпадабаў.

Горад Грышку быў нязвыклым
Шчэ да гэтых нават пор
І аўто,
І матацыклы,
І трамвай,
І светафор,
І паток людзей руплівых,
І нястрымна-быстры ход—
Грышку робяць палахлівым,
Хоць другіх наадварот.

Аж да вечара ад ранку,
Як пальба з гарматных дул,
У яго—бесперастанку
У вушах ракоча гул.
З дома выйсці ён баіцца,
Ён баіцца нават зліцца
Ў баявы людскі паток.
Горад шумны, горад гулкі,
Плошчы, вуліцы, завулкі,
Можна зблытаць, заблудзіцца,
А падумаюць, што ўцёк!
І яшчэ не змог адкінуць
Злосных дум пра дысцыпліну.
— Усё,—казаў ён,—роўна, гладка,
Па званку—на фіззарадку,
Па званку—на медагляд,
Па званку—і на заняткі,

Па званку—і ў інтэрнат.
Хочаш так, а будзе гэтак,
Зробіш гэтак, будзе так—
Што падхопіць сценгазета
І надоўга дасца ў знак!

IV

Дні ішлі. Ішла вучоба.
Грышка ўжо тлумачыў глобус.
Паказаў мерыдыяны,
Расказаў пра акіяны,
Пра бураны і самум,
Пра пустыню Кара-Кум.
Як спыталі пра Карпаты,
Вышла штось неякавата,—
Ён зблудзіў, замест Карпат
Пальцам ткнуў на Арарат.

Больш за ўсё любіў задачы,
Тут заўсёды меў удачы.
Есці Грышку не давай,
А задачы задавай.
Раз на лекцыі выкладчык
Даў наступную задачу:

Жыў на хутары кулак,
У яго служыў батрак.

10 месяцаў гарбсў,
2 рублі за месяц меў.
А кулак на развітанне
За начлег і харчаванне
Два чырвонцы адлічыў.
Што тут вышла, падлічы:
Колькі грошы ўзяў батрак,
І што выгадаў кулак?
— Атрымаў батрак за працу
2 на 10 мінус 20,
А кулак...
І... тут—адразу
Грышка змоўк,
Не даў адказу.
У яго перад вачыма
Выплывае з нетраў дымных
Злой тугой і крыўдай лютай
Бацька, Лось, сястра і хутар.

Грышку сум праняў наскрозь,
„Бедны Лось, харошы Лось,
Як жывеш, ці ўспамінаеш?
З кім цяпер ты байкі баеш?
Падрасту, цябе з нягоды
Забяру я назаўсёды..."
І ў мурожныя даліны
Беглі думкі-успаміны,
Завіваліся ў вянок,—

Беглі лётам жураўліным,
Беглі лётам сакалiным,
Аж пакуль на перапынак
Не пазваў дзяцей званок.

Грышка ўздрогнуў... Звонкі выбух,
Аж дрыжаць у вокнах шыбы,
Карты гойсаюць на сценах,
Гэта значыць—
Перамена!
Гэта значыць—звонкай бурай,
Непакорнай і шчаслівай
Ускрыляла весялосць.
Толькі Грышка сумны, хмуры,
Ён трымаўся сiратлiва,
І бурчэў сабе нудлiва:
— Бедны Лось,
Харошы Лось!

## V

Раптам трубку ён убачыў
(Ідучы, згубіў выкладчык),
Трубка дзіўная такая,
Зззяе, быццам залатая.
— Ўзяць такую трубку ў рот
Саладзей за пчолін мёд.

Прыляцела злая думка,
Чорным зманам стала крумкаць:
„Не пужайся, смела, брат,
Будзь рашучым, раз... і ў сумку,
Будзе Лосю падарункам,
Лось да смерці будзе рад“.
Грышка доўга не ўтрымаўся,
Зману чорнаму паддаўся,
Баязліва, крок за крокам,
Падышоў, зладзейскім вокам
Азірнуўся, бокам стаў—
Цап—за трубку,
Трубку ўзяў!
І за пазуху схаваў.

Як прышоў у клас выкладчык,
Трубкі ў класе не знайшоў.
— Як-жа так? Што гэта значыць?.
Цішыня шуршыць, як шоўк...
І пытаецца выкладчык:
— Хто маю тут трубку бачыў?
Мне-ж яе падаравалі,
З дальняй Турцыі прыслалі.

Як-жа так? Няўжо выходзіць,
Што з'явіўся ў класе злодзей?
Ўсе плячыма паціскалі:
— Мы не бачылі, не бралі.

Страх у Грышкіных вачах,
Ён не рад свайму паступку.
— Трубка,
            Трубка,
                        Трубка,
                                    Трубка—
Сэрца стукала ў грудзях!

## ВЫСТРАЛ НА ГРАНІЦЫ

### I

Палахліва, ніжай, ніжай,
На зямлю садзіўся змрок.
На канькі, на санкі, лыжы
Зваў фанфарамі каток.

Ледзяною стройнай сцежкай
Вецер з венікам прабег —
І на радасць канькабежцам
Вецер віхрам вымеў снег.

Гул бадзёры, вечар звонкі,
Маладзёжны карнавал,
І спаборніцтва, і гонкі,
І закалка, і запал,

І ракеты, як маланкі,
Зіхацяць пражэктары.
Тут і санкі, як лядзянкі,
Самі коцяцца з гары.

Рэжуць лыжныя палозы
Срэбрам выкатаны шлях.
Не пужае хруст марозу,
Кроў гарачая ў грудзях!

Фейерверк шматкаляровы
Узлятае ў стынь высот.
Нават месяц сівабровы
Водзіць зорны харавод.

Глянеш, хочацца ўпрыпрыжку
Бегчы, бегчы на каток...
А чаму-ж у хаце Грышка,
Як запёрты на замок?

І канькоў сваіх не точыць,
І жаданняў не відно...
Грышка злосны, ён не хоча
Нават глянуць у акно.

Грышка злосны, і не дзіва—
У вочы глянуць сарамліва,
Кожны знае, кожны кпіць:
— Грышка, дай, брат, закурыць!

„От, паддаўся зману, блазан,"—
Грышка сам сябе даймаў.
Тую трубку ён адразу
Сам выкладчыку аддаў.

Думаў, сойдзе справа проста,
Дый былі пазвалі ў зал,
Там сабраўся сход фарпоста—
Свой-жа школьны трыбунал.

Сход гарачы, бурны, колкі,
Кожным словам, як іголкай,
Грышку сэрца з лютай боллю
Свідравалі і калолі.

Вось чаму не быў на гонках,
Вось чаму адзін заўжды,
Хоць мінула пяцідзёнка
І прабегла шмат вады.

Праўда, быў-бы на ігрышчы
Разам з іншымі і Грышка,
Дый дзяткораўскай рукой
Сапсаваны ўвесь настрой.

Ёсць у школе сценгазета
(Хто-ж не ведае пра гэта?),
Ну, і Грышка, зразумела,
Пад дзеткораўскім абстрэлам.

Перадоўка баявая
Грышку б'е і навучае,
Што ў совецкай нашай школе
Нельга быць такім ніколі!

А за тым нарысаваны
На шырокіх двух лістах
Пад турэцкага султана—
Грышка з трубкаю ў зубах.

II

Грышку гэта прапрацоўка
Грудзі точыць, як чарвяк.
Непрыемна і нялоўка
І дасадліва, аднак—
Зрыў бывае, як сумысна,
І балючым, і карысным;

Ён адзін.
Халодны гоман,
За акном драты гудуць...
Грышка думаў:
„Зручны момант...
Быццам канула ў ваду...
— А чаму яна сарвана?
— Разбяры яго алах!..
І не будзе больш... султана
З жоўтай трубкаю ў зубах".

Падышоў ён да газеты,
Ўжо кранаецца рукой,
Раптам чуе голас Нэты:
— Грышка, стой!
Не можна,
Стой!..
Знаеш,—Нэта гаварыла,—
Што было-б, каб ты сарваў?..
...Нэта з Грышкаю дружыла,
Грышка з Нэтай сябраваў...

III

Хутка першае паўгоддзе,
Час іспытаў надыходзе,
Добра вытрымаць іспыты
Гонар кожнаму, таму—
Хто за кнігу, хто за сшытак
Гуртам і па аднаму.

Да вакацый многа працы,
Многа трэба рыхтавацца,
А як скончаць працу, зноў—
На граніцу, да бацькоў.

З бацькам хочацца спаткацца
З добрым поспехам у працы.
Ўсе ў рабоце, сціхлі крыкі,

Заліковая пара!
Здаць на добра ўсе залікі.
Хоча наша дзетвара.

Грышка ўпартасцю нязломнай
Працаваў адзін, аднак—
Што для Грышкі аксіома,
Для другіх пытальны знак.

Вучнем першым выйсці хоча,
Лепшым быць імкнецца ён.
Нават сніцца Грышку ўночы
Кроў рабочых і Гапон.

У сваіх жаданнях гэтых
Ён зайздросны і скупы.
Хай памылку зробіць Нэта,
Грышка, быццам, як сляпы.

Ён не справіць, не паможа
І таму—з кім сябраваў.
Што рабіць так непрыгожа,
Грышка як-бы і не знаў.

Хоць малы, а ўжо скалечан,
Цяжка быць яму ў страю,—
— Грышка, дай канспект на вечар.
— Гэта мой, я не даю!

Грозны час не за гарамі,
Кожны свой спакой сцярог.
Так міналі дні за днямі,
Дні работы і трывог.

## IV

Стаў блакіт зарой займацца,
Сонца ясны дзень прышоў...
Едуць, едуць (час вакацый
На граніцу да бацькоў.

Серабрыстай пуцявінай
Мчыцца грузны аўтабус.
Пераможан чорны мінус,
Кожны вёз здабыты плюс.

Гул матора, посвіст ветру,
Трэск марожаных галін.
Сорак восем кілометраў—
Сто чатырнаццаць хвілін!

Да бацькоў, на пагранічча,
Насцеж ім адкрыты шлях.
Колькі сілы навальнічай,
Колькі радасці ў грудзях!

З імі ў госці Грышка едзе,
У машыне ён не ўседзіць.
Шустрай птушкай вочы скачуць,
Шмат знаёмага ён бачыць,
Гадаваўся-ж тут і рос.

Стромкі лес белагаловы
Пахмурнеў,
Яго сурова
Скуў уздыблены мароз.

Зацярушыу снег паляны,
Ёлкі, глянеш, як курганы,
А курган—нібы шацер.
Стынуць лозы,
Стынуць вербы,
Выйсці з лыжамі цяпер-бы
Ў замарожаны прастор!

—А найлепш у лесе летам,
Колькі ягад і грыбоў,—
Грышка кінуў зрок на Нэту,
З Нэтай гутарку завёў...

## V

А прыехалі, на дзіва
Хутка дзень вірлівы бег.
Колькі гутарак шчаслівых,
Колькі матчыных уцех.

Нават повар у сталовай
Для гасцей, для дарагіх,
З захапленнем падрыхтоўваў
Гусі, каву, пірагі.

Шмат навінаў, шмат расказаў,
Вабіць ласкі цеплата.
Грышка быў з сябрамі разам
І адзін, як сірата.

Да начальніка-ж заставы,
Як да бацькі, ён ідзе.
Кроў гудзіць бунтоўнай лавай.
— Добры, дзень вам!
— Добры дзень!
— Я прыехаў...
— Малайчына!
І сустрэча ў іх была
І прыветнай, і гасціннай...
Радасць Грышкава расла.

І начальнік рад сустрэчы,
Ветла Грышку трос за плечы,
Грышка слухаў, як стары,
Што начальнік гаварыў.
А начальнік гаварыў:
— Чалавекам-будаўнічым
Станеш ты на пагранічча,

Будзь-жа ўпартым, ваяўнічым,
І расці і ўглыб, і ўшыр.
І ў адказ быў голас звычны:
— Ёсць, таварыш камандзір!

## V

Дружна ў Ленкутку гулялі
Грышка з Нэтаю ў пінг-понг.
Мяч лавілі, падкідалі,
Заліваўся патэфон.

Раптам выстрал. Бліскавіцай
Вочы бліснулі.
— Ўставай!
Выстрал чуеш на граніцы—
На граніцу выбягай!
Выбег Грышка, Нэта ўслед:
— Што такое?
— Ў чым сакрэт?
Гоман. Бег...
Снег трашчаў.
— Дзе стралялі?
Хто страляў?

А выпадак быў такі:
У дазоры два стралкі
Раптам бачуць ля крыніцы,
Ўжо ля самае граніцы,

У кустах густой асіны
Прытаілася жанчына.
А павінен, хто ў дазоры,
Даць каманду:
 — Рукі ўгору!
 — Стой!
...Яна ўцякаць...
 За ёй—
Куля выбегла стралой.
Як пачула рэха стрэлу,
Дык і села, абамлела.

Вунь ідуць яны...
 І шустра,—
Дзетвара бяжыць насустрач..
— Малайцы-байцы, шпіёнку
Падлавілі...
 Радасць звонка
Льецца водгуллем—ура!
Бушавала дзетвара.

Сэрца Грышкава ў прыбоях,
Грышка здзіўлен: „Што такое?
Маладзіца-Палавіца
Уцякала за граніцу?
Што? Яна?
 Яна! Сястра!
Як зрабіць? Маўчаць, азвацца?
Мабыць, лепш не прызнавацца!“

Страх праняў, стаў калаціцца,
„Як ступіць, за што ўчапіцца?“
І стаяў, як укапаны:
Стынуць вочы, рукі вянуць,
А ў грудзях, што ў горле косць,
Гнеў, трывога, страх і злосць.

Шумам поўніцца застава,
Ён адзін, лясы гудуць...
Думкі ўюцца, як праявы,
У вачах імжыцца муць.
Вые ў лесе вецер люты,
Як падбіты, вые звер.
Як успомніў Грышка хутар,
Тут успомніўся і клер.
— Дзе-ж ён, клер, дзе-ж ён цяпер,
Выкшталцоны кавалер?
І аблаяў згарача
Таго клера-паніча.

Рантам хто пад ногі кінуў
Агняжгучую лучыну—
Грышка ўздрогнуў і ў заставу
Паляцеў праз пераправу.

А ў заставе, як заўсёды,
Цішыня, хоць шмат народу,
Там спакойна, без пагроз,
Адбываецца допрос.

І ля печкі, у заставе,
Прытаіўшыся на лаве,
Грышка скурчаны сядзеў,
Слухаў, як дапрос ідзе.
— Як завешся?
— Кацярына.
— А на прозвішчу?
— Трыгор.
— Хто бацькі?
— Я сіраціна,
Бацька мой даўно памёр.
Быў бядняк...
І плакаць стала,
Злосць у Грышкі грудзі рвала.
Ён затросся, як асіна,
Цёмна стала ў галаве:
— Звацъ цябе не Кацярына,
Бацька наш яшчэ жыве!
Што ты круціш, Палавіца!

І, здалося, навальніцай
Бушаваў не Грышка гэта,
Хоць і голас Грышкі быў.
Як сястра, падбегла Нэта,
Нэту Грышка прытуліў.

## ШЧАСЛІВЫ ПУЦЬ

### I

Той, хто чулым сэрцам чуе
Цішыню лясоў начную,
Подых ветру,
Ўзлёт савы,
Шэлест шоўкавай травы;
Той, хто ў цемры таямнічай
Бачыць вокам вартаўнічым,
Што дрыжыць трывогай ліст,
Што змяінай пуцявінай
Лезе ў нашую краіну
Шпік, а з ім кантрабандыст,--
І абодвух, ваяўніча

Затрымае, даўшы бой—
Той—сапраўдны пагранічнік,
Большэвіцкіх спраў герой!

Наша дзіўная краіна
Смела можа і павінна
Расцвітаць і ганарыцца
Вартаўнічымі граніцы,
Ад Заслаўля і—далёка—
Да агнёў Уладзівастока,
Бо—граніцы вартаўнік—
І—герой,
І большэвік!

Будзь спакойным, будаўнічы,
Мурам скута пагранічча,
І на варце пільны зрок.
Хай раз'юшаныя хлынуць—
Узарвуць іх нашы міны,
Ператруць на парашок.

II

Веем сонечнай зарніцы
Дзень прыходзіць на граніцу.
Пачынаецца спачатку
Фізкультурная зарадка.
А затым палітхвіліна

Пра апошнія навіны:
Што змянілася, што стала
У краінах капіталу.
А навін за ноч і дзень —
Цэльны сшытак-бюлетэнь.

Слова ў слова, кожны гук,
Што расказваў палітрук,
Слухаў Грышка.
Грышка смела,
Што было незразумелым,
Падыходзіў і пытаў.
І з ахвотаю спачатку
Палітрук палітзарадку
Зноў для Грышкі пачынаў.
Стаў ён родным, стаў ён блізкім,
Байцам тут ён ад калыскі.
Ён здружыўся, стаў, як брат,
Ён здаволены, ён рад—
Тут яму раскрылі вочы.
Тут былы кулацкі хлопчык
У віры людскім, віхрыстым—
У агні байцоў-чэкістаў,
Перакоўваўся, як сталь.

Для яго пагранзастава
Стала дзіўнай пераправай
Ад маны і ад тугі
У свет вялікі, ў свет другі.

Ў свет—дзе шчасцем сонца рэе,
Дзе крылатых песень звон,
Дзе зарой зямля рунее,
Дзе красуе працы плён.

Грышка ўведаў, што адвеку
Два шляхі на свеце ўтканы.
Шлях тугі, праклёнаў, здзекаў
І шчаслівы шлях, вясняны.
І што быў яшчэ дагэтуль
Пад страхой старога свету,
І што ён цяпер другі,
І другія берагі,
І зусім другі народ!..

III

Як канчаўся час канікул,
Апынуўся, як на стыку.
Сэрца білася балюча,
Ён журбой разлукі скручан.
Рваўся ён,
Хацеў прасіцца,
Каб астацца на граніцы.
Як іржа, лягла дасада.
„Як тут быць?
Хто дасць параду?“

Кожнай жылкай сэрца зрося
Ён з байцамі пагранічча.
Чуе, кроў гудзіць нязвычна:
Выязджаць яму прышлося.

У гэты дзень і шчырым гэтак
Быў, надзіва, Грышка з Нэтай.
Ён казаў-расказваў ёй
Пра жыццёвы скрутак свой.
Ён не мог не расказаць,
Кім ён быў, кім хоча стаць.
Нэта Грышку спачувала,
А затым, пад звонкі смех,
Грышку снегам закідала
І сама зляцела ў снег.
— Кінь ты лапці плесці з лыка,
Страсаніся, досыць хныкаць!
Нас наперадзе чакае
Барацьба і працы шмат.
Едзем, Грыша,—нас спаткаюць—
Горад, школа, інтэрнат!

А над імі лётным колам
Віўся птушак строй вясёлы,
Птушкі кружацца, гудуць:
— У добры час!
Шчаслівы пуць!

1934 г.

## ЗМЕСТ

## ЦЕНІ НА СОНЦЫ



## ШЧАСЛІВАЯ ДАРОГА



Рэдактар *М. Чарот*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Карэктар *Е. Жылінская*
Вокладка і супервокладка *Гусева*
Здана ў друкарню 19.IV-36 г.
Падпісана да друку 14.IX—36 г.
Уп. Галоўлітбела №Б 1210
Заказ ДВБ № 252.
Заказ друкарні № 476
Папера 82×110 $^1/_{32}$
Аб'ём $12^3/_8$ аркуш.
Тыраж 8.185 экз.
Друкарня
імя Сталіна,
Менск,
Энгельса, 2



Цана кнігі 8 р., пераплёт 1 р.